ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№45 (2551)

6 лістапада 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

«ПА АПЫТАННЯХ ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ»

## НАЗАД У СССР

*Словы "па апытаннях грамадскай думкі" трывала ўвайшлі ў наша жыццё. Гэтых даных чакаюць, на іх спасылаюцца, іх заказваюць сацыялагічным службам, калі хочуць атрымаць дакладны зрэз грамадскіх настрояў. Нягледзячы на тое, што іх можна параўнаць з імгненным фотаздымкам грамадства — дакладным, аб'ектыўным, бясстрасным, яны здзіўляюць і выклікаюць спрэчкі. Аб гэтым — інтэрв'ю з дырэктарам даследчага прадпрыемства "Новак" Андрэем ВАРДАМАЦКІМ.*

**— У масавай свядомасці сацыялогія асацыіруецца выключна з вынікамі апытанняў грамадскай думкі. Ці такая аднамерная гэтая навука!**

— Сацыялогія — гэта вельмі разнародны від дзейнасці, які дазваляе атрымаць самыя розныя вынікі. Аднак у прэсе часцей за ўсё "ўсплываюць" простыя аднамерныя працэнтныя размеркаванні, сацыяльна-групавы аналіз. З сацыялогіяй у масавай свядомасці асацыіруецца толькі адна яе невялікая частка — апытанні грамадскай думкі. І менавіта з імі асацыіруецца сацыялогія ўвогуле, хаця гэта толькі яе нязначная частка.

**— Ці здараецца сацыёлагам атрымліваць вынікі, якія здзіўляюць іх саміх!**

— Так, вельмі часта атрымліваюцца нечаканыя вынікі, якія прадбачыць проста немагчыма, але лічбы — гэта лічбы, з імі не спрачаюцца, іх інтэрпрэтуюць.

**— Які вынік апытання за ўвесь час работы быў найбольш нечаканым для вас!**

— Перад першымі ў Беларусі прэзідэнцкімі выбарамі летам 1994 года ўсе сродкі масавай інфармацыі працавалі на Кебіча, і існавала ўстойлівае меркаванне, што прэзідэнтам стане менавіта ён. І нам, простым рамеснікам-вымяральнікам, усё інфармацыйнае поле гаварыла аб верагоднасці менавіта такога выніку. Але за трое сутак да выбараў у нуль гадзін прыйшлі апошнія анкеты з вынікамі апытання па будучаму галасаванню, і ноччу ж мы атрымалі вынікі, якія адназначна гаварылі, што прэзідэнтам будзе Лукашэнка. І як бы гэта ні супярэчыла агульнай карціне, дамінуючым інфармацыйным патокам, даныя — гэта даныя, і мы іх заявілі.

**— Ці ёсць методыкі, якія дазваляюць пераканацца, што рэспандэнт дае шчырыя адказы! Якая гарантыя таго, што ён не крывіць душой!**

— Па-першае, у самой аснове анкеты звычайна закладзены кантрольныя пытанні, своеасаблівыя "дэтэктары хлусні", якія дазваляюць адбракоўваць анкеты, у якіх рэспандэнты пакрывілі душой. Па-другое, існуюць праграмы "чысткі" адказаў, якія рэалізуюцца ў працэсе апрацоўкі даных. Словам, механізм кантролю існуе, і ён значна больш рафініраваны, чым пра тое ведама. Без гэтага заказчык не быў бы ўпэўнены ў атрыманых лічбах, між тым, ад вынікаў маркетынгавых даследаванняў часта ў істотнай ступені залежыць далейшы лёс той ці іншай арганізацыі ці фірмы, у штаце якой могуць працаваць тысячы людзей.

**— Якімі шляхамі вы атрымліваеце сацыялагічную інфармацыю!**

— Для таго каб атрымаць адзін рэйтынг, які складаецца з трох лічбаў — дзвюх цэлых і адной дзесятай — трэба зрабіць тысячу індывідуальных інтэрв'ю face-to-face. Прычым, гэтыя інтэрв'ю трэба браць у людзей, якія адпавядаюць пэўным сацыяльна-дэмаграфічным параметрам, потым усе даныя трэба праверыць, апрацаваць і ўвесці ў машыну. Атрыманне сацыялагічнай інфармацыі — вялікі тэхналагічны ланцужок, галоўнай фігурай у якім з'яўляецца інтэрв'юер.

**— Ці ёсць адчуванне таго, што ў Беларусі буйныя прадпрыемствы і фірмы ўжо дараслі да разумення важнасці сацыялагічнай інфармацыі!**

— Відавочна, што станоўчы зрух ёсць, асабліва ў параўнанні

(Заканчэнне на 3-й стар.).



## ПРЫГОЖЫ ГОРАД ЛІДА

У горад таксама можна закахацца. Я люблю Ліду сорак гадоў. Прыехаў на работу ў рэдакцыю газеты "Уперад" пасля універсітэта. Горад яшчэ ляжаў у руінах. Ад вакзала аж да камбіната хлебапрадуктаў дамоў амаль не было.

Сёння ж Ліда — прыгажуня. Адметнасць яе — шырокія вуліцы, зялёныя, чыстыя, забудаваныя сучаснымі дамамі — пяці-, дзевяці-, дванаццаціпавярховымі. Яны ўдала спалучаюцца са старымі пабудовамі, ствараюць разам утульнасць, камфорт, прыгажосць.

**НА ЗДЫМКУ: старажытны замак у Лідзе.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Самабытнаму мастаку з Брагінскага раёна Васілю ШАЎЧЭНКУ (на здымку) 72 гады. Захапляцца жывапісам ён пачаў яшчэ да вайны. У час акупацыі маляваў у падполлі партызанскія лістоўкі, быў сувязным. Любімыя тэмы Васіля Мінавіча цяпер — родная прырода, брагінскія мясціны. Ён верыць, што зямля залечыць і раны, нанесеныя чарнобыльскай бядой.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*ЗГАДКІ ПРА УЛАДЗІМІРА КАЛЕСНІКА*

## ТАКІМ ЯГО ПАМЯТАЮЦЬ

Сёлета яму споўнілася б 75, але ўжо тры гады як яго няма з намі, пайшоў у іншы, будзем спадзявацца, больш спакойны свет. Гаворка пра Уладзіміра Калесніка — выдатнага літаратара, педагога, краязнаўца, грамадскага дзеяча, чалавека светлай душы, які пакінуў пасля сябе глыбокі след у памяці і свядомасці сучаснікаў.

Я яго таксама ведаў. Гэта быў чалавек незвычайнай стойкасці духу, якая дапамагала яму адольваць жыццёвыя нягоды. Не раз казаў: "Лепш упасці два разы брухам, чым адзін раз духам". Як бы і жарт, але колькі ў ім мужнага сэнсу! У лісце, які я атрымаў ад Уладзіміра Андрэевіча ў час яго апошняй хваробы, запрашаў: "Заходзь, пагамонім, ці моцная ў Вас вера?" Гаворачы "Вас", ён, мусіць, меў на ўвазе не аднаго мяне, а больш шырокае кола людзей — маладзейшае пакаленне, нашчадкаў наогул.

Упершыню давялося ўбачыць і пазнаёміцца з ім недзе ў сярэдзіне 50-х гадоў, калі ён прыехаў выкладаць у Брэсцкі педінстытут імя А. С. Пушкіна. Чытаў розныя курсы — мне давялося слухаць у яго выкладанні беларускі фальклор і фалькларыстыку. Меў вялікі поспех, бо мала сказаць, што гэта было цікава, — нас,

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР

### СУСТРЭЧА З ЛЕАНІДАМ КУЧМАМ

Пасол Беларусі на Украіне Віталь Курашык сустрэўся з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам. У ходзе гутаркі былі абмеркаваны пытанні далейшага развіцця добрасуседскіх адносін паміж дзвюма краінамі, павелічэння тавараабароту, паляпшэння работы міждзяржаўных камісій па гандлёва-эканамічнаму супрацоўніцтву.

Украінскі Прэзідэнт пацвердзіў сваю пазіцыю аб неперспектыўнасці палітыкі ізаляцыі Беларусі і прапанаваў расшырыць кантакты на дзяржаўным узроўні. Л. Кучма даручыў прэм'ер-міністру Украіны Валерыю Пуставойценку ў бліжэйшы час абмяняцца рабочымі візітамі з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам і зрабіць такія сустрэчы рэгулярнымі.

З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

### БЕЛАРУСКІ ДЭПУТАТ НА СЕСІІ ААН

Аднаўленае членства беларускага парламента ў Міжпарламенцкім саюзе адразу ж атрымала развіццё. У верасні Генеральны сакратар МПС П'ер Карніён звярнуўся да Старшыні Палаты прадстаўнікоў Анатоля Малафеева, які з'яўляецца кіраўніком Нацыянальнай групы Нацыянальнага сходу ў МПС, з прапановай дэлегаваць прадстаўніка Беларусі ў Нью-Йорк для ўдзелу ў 52-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Гэта прапанова была прынята. У Нью-Йорку беларускі парламент даручана прадстаўляць дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Нацыянальнай групы Аляксею Камаю.

ПА ПРАЦЫ І ПАШАНА

### В. ЕЛІЗАР'ЕВУ — 50

Народнаму артысту СССР і Беларусі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Валянціну Елізар'еву споўнілася 50 год. У сувязі з гэтай датай і за вялікі асабісты ўклад у станаўленне і развіццё беларускага балета дырэктар, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь Валянцін Елізар'еў узнагароджаны ордэнам Францішка Скарыны.

У прывітанні Прэзідэнта Беларусі вялікаму майстру гаворыцца: "Ваша найвышэйшае мастацтва, якое стала нацыянальным набыткам і прызнанае ва ўсім свеце, хвалюе сэрцы многіх тысяч паклоннікаў балета. Ваш нетрадыцыйны падыход да вырашэння мастацкіх задач, выкарыстанне лепшых дасягненняў класічнай і сучаснай харэаграфіі, вялікая працаздольнасць, патрабавальнасць да сябе і артыстаў здабылі Вам сусветную славу і аўтарытэт".

ДОЎГАЧАКАНЫ МОСТ



Уступіў у строй мост праз Бярэзіну, які злучыў два буйныя раённыя цэнтры — Жлобін і Светлагорск. Будаваць яго пачыналі яшчэ ў 1939 годзе, тады былі пастаўлены ўсе апоры. Але спачатку вайна, затым іншыя праблемы перашкодзілі будаўніцтву. Цяпер на тых яшчэ даваенных апорах мост даўжынёй 400 метраў здалі нарэшце ў эксплуатацыю.

НА ЗДЫМКУ: новы мост.

ЮБІЛЕЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ

### НА ЎРАЧЫСТЫМ ВЕЧАРЫ

Павіншаваць калектыў Нацыянальнай бібліятэкі з 75-годдзем з дня яе заснавання 24 кастрычніка ў Беларускую філармонію, дзе адбыўся з гэтай нагоды ўрачысты вечар, прыйшлі многія вядомыя людзі, прадстаўнікі ўрада, прафсаюзаў, грамадскіх арганізацый, вышэйшых навучальных устаноў і проста яе чытачы.

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Іван Пашкевіч зачытаў прывітанне кіраўніка дзяржавы, міністр культуры Аляксандр Сасноўскі павіншаваў ад імя Савета Міністраў і ўручыў ганаровыя граматы ўрада і міністэрства лепшым работнікам бібліятэкі. Прыйшлі тэлеграмы ад Старшыні ніжняй палаты Нацыянальнага сходу Анатоля Малафеева, міністра замежных спраў краіны Івана Антановіча, пасольстваў многіх дзяржаў, акрэдытаваных у Беларусі, міністра культуры Расіі Наталлі Дзяменцьевай.

Сярод іншых добрых пажаданняў, якія прагучалі ў гэты вечар, самым дарагім і жаданым для калектыву Нацыянальнай бібліятэкі рэспублікі стала, відаць, пажаданне хутчэй пачаць будаўніцтва новага сучаснага будынка. Праект яго па распараджэнню Аляксандра Лукашэнкі і ўрада ўжо распрацоўваецца.

ШЧАСЛІВЫЯ НАВАСЁЛЫ



Пасёлак індывідуальных дамоў сядзібнага тыпу вырас у саўгасе "Рудакова" Віцебскага раёна. Яго навасёламі стануць сем'і працаўнікоў саўгаса.

З ІНІЦЫЯТЫВЫ БУРГАМІСТРА

### БЕЛАРУСКАЯ ВЕЧАРЫНА Ў ВАРШАВЕ

Пасольства Беларусі ў Польшчы сумесна з Варшаўскім цэнтрам культуры ў Белянах правялі беларускую вечарыну. Яе ініцыятарам выступіў Міхал Мазуроўскі, бургамістр аднаго з буйнейшых раёнаў (гмінаў) Варшавы—Беляны.

У час вечарыны адкрылася выстава твораў беларускага мастака С. Кічкі. Студэнты этнаграфічнага аддзялення Варшаўскага універсітэта падрыхтавалі цікавую фотавыстаўку па матэрыялах этнаграфічнай экспедыцыі ў Беларусь. Вельмі цёпла было ўспрынята ўдзельнікамі вечарыны выступленне фальклорнага калектыву са Століна. У выкананні артыстаў Варшаўскай філармоніі прагучалі песні і музыка С. Манюшкі.

У імпрэзе прынялі ўдзел прадстаўнікі ўладаў гміны, беларускай нацыянальнай меншасці з Варшавы, студэнцкая моладзь.

ПАМЯЦЬ

### ВЫДАТНЫМ АКЦЁРАМ

Мемарыяльныя дошкі будуць устаноўлены на дамах, дзе жылі акцёры Купалаўскага тэатра, народныя артысты СССР Глеб Глебаў і Галіна Макарава.

Такое рашэнне прыняў Мінскі гарвыканкам, выконваючы распараджэнне ўрада аб увекавечанні памяці выдатных прадстаўнікоў беларускага сцэнічнага мастацтва.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, 27 снежня гэтага года, у дзень нараджэння Галіны Макаравай, мемарыяльная дошка з'явіцца на доме № 36 па праспекту Скарыны, дзе жыла актрыса. А да 99-годдзя з дня нараджэння акцёра Глеба Глебава, 5 мая наступнага года, будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць аб ім на доме № 4 па вуліцы Леніна ў Мінску.

У КАТОЛІКАЎ СВЕТЛАГОРСКА



Першыя набажэнствы адбыліся ў касцёле Ўзнясення Крыжа Святога, узведзеным у Светлагорску. Адно з найпрыгажэйшых будаўнічых збудаванняў, новы касцёл упрыгожыў архітэктурную панараму Светлагорска.

ПРЫЗЫ АД «ФІЛІП МОРЫС»

### ДВОЕ ПАЕДУЦЬ У АМЕРЫКУ

У Мінску адбыўся розыгрыш прызоў "Выйграй падарожжа ў Амерыку з L&M", які арганізавала ў нашай рэспубліцы прадстаўніцтва фірмы "Філіп Морыс".

2 500 чалавек атрымаюць ад L&M спецыяльныя прызы — спартыўныя сумкі, бейсбольныя кепкі і бірулькі. А два галоўныя пераможцы выйгралі падарожжа ў Амерыку, у час якога наведаюць Нью-Йорк, Лос-Анджэлес і Чыкага. Шчаслівымі стаалі Алена Багамолава з Мінска і Віталь Рубан з Навагрудка.

ДАПАМОГА ЎРАДА

### КАМБАЙНЫ ДЛЯ КАЛГАСАЎ

Урад рэспублікі пастанавіў выдзеліць з пазабюджэтнага фонду падтрымкі вытворцаў сельгаспрадукцыі 250 мільярдаў рублёў на набыццё збожжаўборачных камбайнаў. Плануецца закупіць каля 90 машын "Дон-1500".

ДОБРАЯ ПАМЯЦЬ

### ПОМНІК СКАРЫНЕ Ў МІНСКУ

Грашовыя сродкі ў памеры 1 мільярда 400 мільёнаў рублёў будуць накіраваны ў гэтым годзе на будаўніцтва ў Мінску помніка Францішку Скарыне. Аўтары праекта — скульптар Алесь Дранец і архітэктар Аляксандр Камлюк. Мяркуецца, што помнік будзе ўстаноўлены паблізу Акадэміі навук.

ГРОДЗЕНСКАЕ ПІВА



Сто дваццаць гадоў таму купец Восіп Кунц заснаваў у Гродне піваварны завод. Гэта быў не адзіны, але самы буйны ў горадзе бровар. Штогод тут выпускалася шэсцьдзесят чатыры тысячы вёдзер "Баварскага". А да 1914 года гэта лічба павялічылася ў пяць разоў.

За больш чым векавую гісторыю Гродзенскі піўзавод перажыў спады і ўздымы, але нязменнай заставалася традыцыя: трымаць марку высокай якасці. Гэтая традыцыя захоўваецца і сёння.

Ідзе пастаянны пошук новых рэцэптаў, удасканальваецца тэхналогія. Дзесяць сартоў піва выпускаюць гродзенскія піваварры. А найбольшай папулярнасцю карыстаюцца "Таверна", "Белая Русь", "Зорная ростань", "Шляхецкае", "Стары млын".

НА ЗДЫМКУ: гродзенскае піва.

СЯМ'Я

### ШЛЮБЫ І РАЗВОДЫ

У Беларусі самы высокі сярод краін СНД узровень скасаванняў шлюбу. Аб гэтым сведчаць звесткі Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі. У 1996 годзе колькасць скасаванняў шлюбу ў Беларусі склала 4,2 выпадку ў разліку на 1 000 чалавек насельніцтва (у Расіі і Украіне тым часам — па 3,8).

За студзень—жнівень 1997 года гэты паказчык па Беларусі яшчэ больш узрос і склаў 4,6 выпадку на 1 000 чалавек насельніцтва. Праўда, адначасова назіраецца і рост колькасці шлюбаў ( у студзені—жніўні 1997-га — 6,6 на 1 000 чалавек).

ДЭМАГРАФІЯ

### КРАІНА СТАРЭЕ

Па прагнозах спецыялістаў, да пачатку будучага стагоддзя насельніцтва Беларусі на чвэрць будзе складацца з пажылых людзей. Гэта значыць, што на 1 000 працоўных прыпадае столькі ж непрацаздольных грамадзян.





# ПРЫГОЖЫ ГОРАД ЛІДА



(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Прыклад таму — плошча каля замка. Ён мае выдатную гісторыю. Гэта помнік абарончага дойлідства. Пабудаваны ў 1323—1328 гадах пры Гедыміне. І сёння ўражваюць яго высокія вежы ды тоўстыя (да 3 метраў) сцены. У свой час за імі хаваліся ад ворагаў. Замак разбураўся падчас асад. Цяпер рэстаўратары аднаўляюць яго ў ранейшым выглядзе. У ім і вакол яго ствараецца абстаноўка таго часу, абстаноўка старажытнасці, мяркуецца ўзвесці арыгінальныя пабудовы — культурныя, гандлёвыя.

На замку праведзены значныя работы. Ён набыў грознае, крыху пахмурнае аблічча, як і належыць абарончым збудаванням. Глядзіш на яго — і абуджаюцца думкі пра сівую даўніну, пра людзей, якія тут жылі, змагаліся за свой лёс, адбівалі набегі крыжакоў.

Упрыгожыў плошчу будынак гасцініцы. Ён сяміпавярховы, арыгінальнай архітэктуры, светлы, лёгкі.

З паўночнага боку плошчы ў засені старых клёнаў і вербаў свеціцца бялюткімі сценамі касцёл.

А ў скверык каля яго зноў вярнуўся Францішак Скарына. Зноў — бо пры жыцці ён наведваў гэты горад, бачыў грозны замак, сустракаўся з лідчанамі, ад іх накіроўваўся ў Вільню, дзе выдаваў свае кнігі.

Ініцыятарам стварэння помніка першадрукару, вучонаму, асветніку стала гарадская рада Таварыства беларускай мовы. Характэрнае ў гэтай ініцыятыве — шырокая падтрымка грамадскасці. Заводы, фабрыкі, будаўнічыя арганізацыі, школы, нават дзіцячыя садзікі — усе стараліся ўкласці свой рубель у высакародную задуму. Мінскі скульптар Валерый Янушкевіч выканаў заказ лідчан.

Помнік пастаўлены ў цэнтры горада, між старадаўніх і сучасных будынкаў. Не буду апісваць яго, паглядзіце на здымак — і зразумееце, як разумна і проста вырашана задума: паказаць сапраўднага сына зямлі беларускай.

Непадалёку адсюль лірычнай, сімпатычнай скульптурай увекавечана памяць яшчэ адной выдатнай постаці беларускай зямлі — Адама Міцкевіча. Ён таксама неаднойчы бываў у Лідзе, калі ездзіў з Навагрудка ў Віленскі універсітэт.

У лідчан ёсць яшчэ адна ідэя: паставіць помнік Гедыміну, пры якім будаваўся замак. І паставіць яго (вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага, на кані) мяркуецца на плошчы перад замкам.

Плошча гэтая нібы сімвал стотысячнага горада. Тут сабраліся ў адно прыгожае кампазіцыйнае цэлае і замак, і касцёл, і гасцініца, і дамы пабудовы розных гадоў. Плошча прасторная, зялёная. Помнік Гедыміну, думаецца, стане яе лагічным кампазіцыйным завяршэннем.

Калі шчыра, то ў якім горадзе за такі кароткі час пастаўлена і задумана столькі помнікаў слынным сынам Беларусі? Гэтым лідчане могуць ганарыцца.

Іх горад старажытны і малады. Мяркуецца, што ён заснаваны каля 1180 года. Ён стаіць на скрыжаванні многіх шляхоў, лёсаў — гістарычных, асабістых чалавечых і цэлых народаў. Шмат выдатных людзей тут нарадзіліся, вучыліся, жылі, пакінулі свой прыкметны след, памяць пра сябе. Сярод іх Вітаўт, Гедымін, Скарына, Дамейка, Багушэвіч. Міцкевіч, Буйло, Путрамент, Нарбут, Каліноўскі, Таўлай...



Асноўны клопат гарвыканкома, як расказалі яго кіраўнікі, — зрабіць Ліду яшчэ прыгажэйшай, утульнейшай, эканамічна і духоўна багацейшай. Прымаюцца захады па рэканструкцыі прамысловых прадпрыемстваў, будаўнічых арганізацый. Пастаянна абнаўляецца асартымент прадукцыі. Яна экспартуецца ў дзесяткі краін свету. Попытам карыстаецца прадукцыя абутковай фабрыкі, заводаў электравырабаў, сельскагаспадарчага машынабудавання, лакафарбавага, мясакамбіната ды іншых. Усяго ў горадзе больш як дваццаць буйных прадпрыемстваў.

У Лідзе часта ладзяцца святы. Можна падрабязна пра іх расказваць. Ды не ў гэтым справа. Хочацца падкрэсліць галоўнае: адзначаюцца менавіта дарагія для беларусаў святы і даты. Францішак Скарына, Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас... Святы беларускай культуры. Вечары паэзіі. Святы фальклору. Дзіцячыя фестывалі... Падчас іх арганізацыі і правядзення праяўляецца шмат ініцыятывы. Узнікаюць новыя калектывы, выяўляюцца новыя таленты. Ансамблі "Лідчанка", "Чаравічкі", калектывы музычнага вучылішча вядомыя далёка за межамі Беларусі, выступалі ў розных краінах, былі пераможцамі розных конкурсаў.

Прыгожы горад Ліда.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**Фатаграфіі Віктара СТАВЕРА зроблены ў горадзе Ліда.**

# НАЗАД У СССР

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

з 1992—1993 гадамі, калі мы толькі пачыналі сваю работу. Тады сацыялагічныя і маркетынгавыя даследаванні многім здаваліся экзотыкай і цацкай для багатых. Пераканаць іх у адваротным немагчыма, бо тая аргументацыя, што мелася ў нас, зыходзіла з міжнароднага вопыту, а айчынны вопыт на той момант адсутнічаў. Цяпер ужо відавочна, што многія беларускія прадпрыемствы і фірмы ўсвядомілі каштоўнасць маркетынгавых даследаванняў. Магу сказаць, што адна з фірм, для якой мы рэалізоўвалі заказ, сумеўшы па выніках даследаванняў своечасова перабудавацца і правільна вызначыць кропкі максімальнага прыкладання сіл, павялічыла свой рыначны сегмент на 40 працэнтаў. Аб значнасці сацыялагічных і маркетынгавых даследаванняў гаворыць той факт, што ў ЗША кожны трохсоты працуючы ў прамысловасці — сацыёлаг... Што ж тычыцца грамадскай думкі, звязанай з палітычнымі рэаліямі, то значнасць гэтых апытанняў ужо не выклікае сумнення.

**— Сацыялогія адсочвае перамены ў розумах людзей. Якія тэндэнцыі, на ваш погляд, пераважаюць апошнім часам у грамадскай свядомасці Беларусі!**

— Я б вылучыў феномен "пачырванення свядомасці". Калі ў самым пачатку перабудовы людзі былі арыентаваны на дэмакратычныя рухі і персаналіі, то цяпер у грамадскай думцы відавочная змена палітычнай дамінанты, змяненне арыентацыі масавай палітычнай свядомасці на савецкую, камуністычную ідэалогію...

**— Back in USSR!**

— Так, аб гэтым можна гаварыць зусім адназначна. Яшчэ адна тэндэнцыя — выхад на дамінуючыя пазіцыі ў грамадскай свядомасці эканамічнай праблематыкі. Калі ў іерархіі праблем, якія стаяць перад краінай, летам 1994 года пераважалі такія пытанні, як барацьба з карупцыяй, мафіяй, з ворагамі ва ўсіх іх праявах, то цяпер на першы план выходзіць эканоміка. Пачынаюць дамінаваць такія пазіцыі, як барацьба з інфляцыяй, своечасовая выплата заработных плат і пенсій. Але тут трэба ўлічваць, што гэтыя пытанні не звязаны з глыбокім эканамічным аналізам, бо масавая свядомасць працуе па спрошчаных схемах. Калі палітыкі гавораць, што на першы план выходзіць эканамічная праблематыка, яны маюць на ўвазе неабходнасць прыцягнення інвестыцый, развіцця прыватнага прадпрымальніцтва, рэструктурызацыю дзяржсектара і г. д. Масавая свядомасць у тым жа выпадку аперыруе вельмі простымі схемамі і мае на ўвазе чыста практычныя рэчы, а менавіта — павышэнне ўзроўню ўласнага дабрабыту.

І яшчэ адна цікавая тэндэнцыя: для нашых людзей рэзкае павелічэнне асартыменту на прылаўках магазінаў было досыць нечаканым, аднак цяпер прасочваецца знікненне безагляднага піетэту перад заходнімі таварамі і прыходзіць разуменне, што нашы тавары, і ў першую чаргу прадукты харчавання, якасна перавышаюць заходнія.

**— Ці цікавяць палітыкаў вынікі сацыялагічных даследаванняў, ці ўлічваюць яны іх у сваёй дзейнасці!**

— Апытанні грамадскай думкі першапачаткова выкліканы цікавасцю палітыкаў да таго, што думае пра іх грамадства. Лічу, што нашы палітыкі вельмі цікавяцца сваімі персанальнымі рэйтынгамі. Кагосьці гэта хвалюе ў меншай ступені, кагосьці ў большай, розныя і іх рэакцыі на вынікі апытанняў. Адны заяўляюць, што сацыялогія не патрэбна, яны ўсё ведаюць самі без дапамогі збоку, другі тып рэакцыі — непрыняцце сацыялагічных даных, калі, даведаўшыся аб непажаданых для сябе выніках, палітыкі абвінавачваюць сацыёлагаў у тым, што яны альбо непрафесійна спрацавалі, альбо падтасавалі даныя. Трэці, найбольш канструктыўны варыянт — гэта калі палітыкі, убачыўшы тыя ці іншыя рэйтынгі, робяць вывады і прымаюць адпаведныя меры. Сёння выразна прасочваецца тэндэнцыя росту цікавасці беларускіх палітыкаў да вынікаў сацыялагічных даследаванняў, разуменне таго, што яны — імгненнае фота нашага грамадства, якое ў дэталях перадае яго аб'ектыўны стан.

**— Наколькі карэктна, на ваш погляд, грамадскія дзеячы абыходзяцца з вынікамі сацыялагічных даследаванняў і з сацыялагічнай інфармацыяй увогуле!**

— Я пастаянна бачу, як палітыкі, палітолагі і журналісты інтэрпрэтуюць гэтую інфармацыю, зыходзячы з свайго суб'ектыўнага вопыту, які проста не ахоплівае ўсёй разнастайнасці навакольных фактараў. Іншы раз даныя інтэрпрэтуюцца з пункту гледжання апошняй падзеі, якая ўвогуле можа адбыцца ўжо пасля атрымання выніку. Палітыкі знаходзяцца ў сваім асяроддзі і часта не разумеюць, што падзеі, якія ім уяўляюцца значнымі, масавымі і нават глабальнымі, на самай справе шырокаму колу грамадскасці могуць быць проста невядомымі. Уласна, гэта натуральная сітуацыя, калі чалавек надае свайму суб'ектыўнаму вопыту значэнне большае, чым гэта ёсць на самай справе. І задача сацыёлага-інтэрпрэтатара ў тым, каб вычляняць сябе з свайго абмежаванага суб'ектыўнага вопыту і сувымяраць яго з вопытам розных сацыяльных груп. Толькі ў гэтым выпадку можна разлічваць на атрыманне аб'ектыўных сацыялагічных даных.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПРА: ПОГЛЯД НА МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ

Працяг. Пачатак у № 44.

Але ў сем'ях, кампактных асяродках заходняй дыяспары, захоўвалася пэўная нацыянальная адметнасць, хоць і слабая. У параўнанні з ёю ўсходняя дыяспара праяўляла большую ўстойлівасць у зберажэнні мовы, звычаяў, традыцый, сваёй этнічнай адметнасці (у адзенні, побыце, забудове, вядзенні гаспадаркі). Па-за этнічнымі межамі паявілася першая асветніцкая арганізацыя "Крывіцкі вязок" (Пецярбург, 1868), першая самастойная палітычная арганізацыя беларускай інтэлігенцыі "Гоман" (Пецярбург, 1884). Дзейнічалі культурна-асветніцкія арганізацыі — Беларускае студэнцкае зямляцтва ў Варшаве (1908—1914), Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэта (1912—1914).

Паскарэнне працэсаў нацыянальнага адраджэння ў пачатку XX стагоддзя не паспела яшчэ істотна паўплываць на самаўсведамленне эмігрантаў. Яны не стварылі за мяжой сваіх суполак, арганізацый, як гэта рабілі іншыя перасяленцы, а ўключаліся па веравызнанню ў рускія (праваслаўныя) і польскія (каталікі) асяродкі, часам — украінскія і літоўскія, падпадалі пад уплыў чужой культуры. Гэта спрыяла не толькі іх русіфікацыі ці паланізацыі, але і страце сваіх гістарычных каранёў нашчадкамі беларускіх імігрантаў. У многіх рускіх асяродках ЗША і Канады беларусы складалі большасць ці значную частку, былі заснавальнікамі цэркваў, парафій Рускай праваслаўнай царквы, актыўнымі ўдзельнікамі грамадска-культурнага жыцця. Толькі ў 1912—1914 гадах дзейнічала першае супольнае Таварыства беларусаў і маларосаў (ЗША, штат Мічыган).

### ДРУГАЯ МІГРАЦЫЙНАЯ ХВАЛЯ І АДМЕТНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ Ў МІЖВАЕННЫ ПЕРЫЯД

Першая сусветная вайна, рэвалюцыя 1917 года ў Расіі, нямецкая і польская акупацыі Беларусі выклікалі значны адток насельніцтва на ўсход дзяржавы, абумовілі новую хвалю выездаў у замежныя краіны. Ад жніўня 1914 года да вясны 1915-га амаль 318 тысяч жыхароў пяці беларускіх губерняў трапілі ў палон ці прапалі без вестак. Пры адступленні царскай арміі ў 1915 годзе праводзілася тактыка "выпаленай зямлі", прымусовая эвакуацыя насельніцтва. Па даных Народнага камісарыята ўнутраных спраў РСФСР на май 1918 года ў Расіі знаходзілася 2 мільёны 292 тысячы бежанцаў з Беларусі (у Петраградзе, Маскве, Тамбоўскай, Самарскай, Калужскай, Казанскай, Курскай, Саратаўскай губернях). На думку беларускіх дэмографаў, 246 тысяч бежанцаў і эвакуіраваных затым не вярнуліся ў родныя мясціны, а яшчэ 122 тысячы чалавек выехалі з Беларусі за мяжу: яны беглі ад ваенных бедстваў, белага і чырвонага тэрору ў Літву, Латвію, Эстонію, Чэхаславакію, Фінляндыю, Турцыю, Германію (тут на пачатку 1919 года знаходзілася, акрамя таго, 30—40 тысяч беларусаў-ваеннапалонных) і інш.

Афіцыйная палітыка савецкай улады вызначыла ў многім асаблівасці ўнутранай і знешняй міграцыі, яе характар і памеры, стан нацыянальнай свядомасці ў міжваенны перыяд. Яна абумовіла першую арганізаваную палітычную эміграцыю (ядро яе склалі Рада, урад і вайсковыя фарміраванні БНР, кіраўніцтва партыі беларускіх эсэраў і інш.). Адвольнае вызначэнне і змяненне тэрыторыі БССР без уліку этнічных межаў і кардынальных жыццёвых інтарэсаў беларускага народа (далучэнне да РСФСР у лютым 1919 года Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў, а затым аднаўленне БССР пасля польскай акупацыі на тэрыторыі толькі 6 паветаў Мінскай губерні з насельніцтвам 1,5 мільёна чалавек, уключэнне па Рыжскаму дагавору 1921 года Заходняй Беларусі ў склад Польшчы) абумовілі знаходжанне пераважнай часткі нацыі на сваіх спрадвечных землях у складзе суседніх дзяржаў, што аслабіла эканамічную базу і духоўныя сувязі беларускага этнасу.

Другая плынь міжваеннай эміграцыі — працоўная, сялянская — вызначалася выездам на амерыканскі кантынент і ў еўрапейскія краіны насельніцтва Заходняй Беларусі, абумоўленым цяжкім сацыяльна-эканамічным становішчам, нацыянальным і рэлігійным уціскам у складзе Польшчы, яе палітыкай спрыяння эміграцыі (дзеля памяншэння беспрацоўя, а разам з тым і долі беларускага насельніцтва на гэтых землях). З 1921 па 1939 год перасялілася пераважна ў Канаду, ЗША, Францыю, Аргенціну ад 180 да 250 тысяч чалавек, галоўным чынам сялян.

Трэцяй крыніцай папаўнення дыяспары ў гэты час была міграцыя з Савецкай Беларусі. У 20-я гады наглядаўся, праўда, даволі абмежаваны выезд у замежныя дзяржавы. Так, замежным аддзелам НКУС у 1924 і 1925 гадах было выдадзена адпаведна 1 658 і 1 784 пашпарты на выезд. Дзве трэці з гэтага ліку ехалі на сталае жыццё ў ЗША, Польшчу, Германію, Латвію, Палесціну, пры гэтым беларусы складалі 10—15 працэнтаў эмігрантаў (астатнія — яўрэі, рускія, палякі і інш.). З 1918 па 1924 год у Заходнюю Беларусь, якая знаходзілася ў складзе Польшчы, вярнулася каля 700 тысяч бежанцаў, раскіданых першай сусветнай вайной на абсягах Расіі. У 30-я гады выезд практычна прыпыніўся: памкненне стала жыць у другой дзяржаве ўспрымалася як варожасць да новага ладу і ўлады. Затое дзяржаўная палітыка СССР спрыяла рассейванню беларусаў па абшарах краіны. З 1926 па 1938 год з БССР, насельніцтва якой налічвала каля 5 мільёнаў жахароў, у іншаэтнічныя рэгіёны СССР выехала 617 тысяч чалавек, пераважна з сельскай мясцовасці. Такі неапраўдана вялікі адток тлумачыцца адсутнасцю ў рэспубліцы палітыкі замацавання жыхароў ва ўмовах аграрнай перанаселенасці, арганізацыяй планавага набору рабочай сілы на дзяржаўным узроўні ў аддаленыя і цяжкія для жыцця і працы рэгіёны, уцёкамі сялян у ходзе гвалтоўнай калектывізацыі, дэпартацыяй "раскулачаных", неабгрунтавана рэпрэсіраваных у 30-я гады, найперш нацыянальна-свядомых людзей. Гэта абяскроўлівала народ, аслабляла яго біялагічны і духоўны патэнцыял, нацыянальную свядомасць. Вяртанне БССР спрадвечных тэрыторый у 1924 і 1926 гадах, далучэнне да яе ў 1939 годзе Заходняй Беларусі наблізіла тэрыторыю рэспублікі да этнічных межаў, узнавіла працэсы кансалідацыі, але яны зноў былі абцяжараны перадачай Віленскага краю Літве і дэпартацыямі ў 1939—1940 гадах з заходняй часткі рэспублікі. За гэты час 1 мільён 170 тысяч палякаў, беларусаў, украінцаў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны былі арыштаваны, вывезены ў паўночныя і ўсходнія рэгіёны Саюза.

Адносіны савецкай улады вызначылі ў міжваенны перыяд і стан нацыянальнага жыцця ўсходняй дыяспары. Ва ўмовах ажыццяўлення палітыкі беларусізацыі рассеяныя па абсягах Саюза беларусы пачалі ствараць у 20-я гады свае згуртаванні. Нацыянальна-культурную дзейнасць ажыццяўлялі спецыяльныя падраздзяленні пры дзяржаўных органах: Беларускае цэнтральнае бюро пры Народным камісарыяце асветы РСФСР (1921—1930), беларускія секцыі пры губернскім аддзеле народнай асветы Адэсы (1918—1923) і Смаленска (1922—1923, 1925—1927). Беларускія студэнцкія зямляцтвы існавалі ў Маскве, Смаленску, Казані, Варонежы, Саратаве, Томску, Растове-на-Доне, Кіеве, Тыфлісе. Беларускі клуб у Маскве дзейнічаў ад 1922-га па 1936 год. Ва ўмовах 30-х гадоў, калі нішчылася ўсё нацыянальна-адметнае, беларускія арганізацыі ў іншаэтнічных рэгіёнах СССР зніклі, а нацыянальныя асяродкі ў краіне не мелі ні маральнай, ні матэрыяльнай падтрымкі з боку БССР.

На эміграцыі найбольшая палітычная актыўнасць і нацыянальна-культурная дзейнасць у міжваенны перыяд праяўлялася ў Літве, Латвіі, Чэхаславакіі, ЗША, Францыі, Аргенціне, дзе былі створаны беларускія арганізацыі, аб'яднанні, выдаваліся газеты і часопісы. Каталізатарам збірання нацыянальных сіл стаў эміграцыйны ўрад БНР (ад канца 1920 года знаходзіўся ў Коўне і ад 1923-га ў Празе), прызнаныя юрыдычна ці фактычна дыпламатычныя прадстаўніцтвы, місіі БНР у Прыбалтыйскіх дзяржавах, Фінляндыі, Турцыі, Балгарыі, Германіі, Чэхаславакіі. Значнай акцыяй па згуртаванні замежных беларускіх палітычных партый і арганізацый з'явілася нацыянальна-палітычная нарада ў Празе (верасень 1921 года). Лідэры палітычнай эміграцыі рабілі захады, каб "беларускае пытанне" станавілася "не мясцовага, а агульнаеўрапейскага зместу". Яны дабіваліся абмеркавання праблемы беларускай дзяржаўнасці на Парыжскай канферэнцыі па выпрацоўцы ўмоў міру з Германіяй і яе саюзнікамі (студзень 1919 — студзень 1920 года). Іх намаганні на гэтым форуме спрыялі азнаямленню сусветнай грамадскасці са становішчам Беларусі, фактычнаму прызнанню БНР шэрагам краін, а некаторымі дзяржавамі — і юрыдычнаму.

Каб прадухіліць падзел Беларусі па Рыжскаму дагавору, кіраўніцтва БНР звярнулася з заклікамі да Лігі нацый, урадаў Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі і Літвы, Польшчы падтрымаць незалежнасць і непадзельнасць Беларусі. Пасля падпісання гэтага грабежніцкага трактата апелявалі да ўрадаў і сусветнай грамадскасці аб яго скасаванні, у прыватнасці, на Генуэзскай канферэнцыі (1922 год).

У Літве нацыянальныя сілы канцэнтраваліся каля Беларускай грамады (1917—1918) і Беларускага сабрання (1921—1922) у Коўне. Тут выдаваліся часопісы "Крывіч" (пачатак 20-х гадоў) і "Беларускі сьцяг" (орган урада БНР, красавік-верасень 1922), а пазней дзейнічалі Беларускі цэнтр у Літве (1923—1927, 1933—1936), Беларускае культурна-асветнае таварыства (1932—1935), аб'яднанне студэнтаў-беларусаў Літоўскага універсітэта імя Вітаўта Вялікага.

У Латвіі былі створаны культурна-асветныя таварыствы "Бацькаўшчына" (1921, Дзвінск), "Рунь" (1924), "Беларуская хата" (1924—1936), Беларускае навукова-краязнаўчае таварыства ў Латвіі, Беларускае навуковае таварыства ў Рызе (1920-я гады), Таварыства беларускіх вучыцялёў, Беларускае выдавецкае таварыства.

У Чэхаславакіі 20-х гадоў дзейнічалі Беларускае (Крывіцкае) культурнае таварыства імя Ф. Скарыны, Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый, таварыства "Беларускі Сокал". У другой палове 20-х гадоў існавала некалькі беларускіх гурткоў у Біянкуры (прадмесці Парыжа), Эльзасе, Латарынгіі і іншых месцах, а з 1930 года актыўную нацыянальную дзейнасць у Францыі праводзіў "Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі" (Парыж).

У міжваенны перыяд пачалося стварэнне нацыянальных арганізацый на амерыканскім кантыненце. Закладзены ў Чыкага Беларуска-амерыканскі нацыянальны саюз (1923) праіснаваў да пачатку 40-х гадоў. У 1935 годзе было зарэгістравана Беларуска-амерыканскае задзіночанне (штат Ілінойс). У 1928 годзе створана першае ў ЗША (Чыкага) беларускае палітычнае аб'яднанне — Беларуска-амерыканскі грамадскі клуб, які на выбарах 1928, 1932 і 1936 гадоў падтрымліваў кандыдатаў дэмакратычнай партыі. У ходзе выбараў 1936 года дзейнічаў ужо і беларуска-ўкраінскі рэспубліканскі клуб.

Згуртаванню суродзічаў у Аргенціне спрыялі культурна-асветныя таварыствы — "Грамада" (1934, Буэнас-Айрэс), "Культура" (1936, Буэнас-Айрэс), "Белавеж" (1938, Авельянеда), бібліятэка імя Івана Луцкевіча (1937, Вілья-Крэспо). Гэтыя арганізацыі, а таксама створаныя згуртаванні "Якуб Колас", "Мінск" і іншыя ў 1939 годзе аб'ядналіся ў Федэрацыю беларускіх таварыстваў, якая склікала канферэнцыі, выдавала гістарычна-літаратурны альманах. Дзейнасць яе вызначалася прасавецкімі настроямі і ў значнай ступені арыентавалася на рускую культуру. Многія з заходнебеларускіх перасяленцаў далучыліся да прафсаюзнага руху і камуністычнай партыі Аргенціны. Прасавецкая, пракамуністычная арыентацыя некаторых арганізацый у ЗША, Аргенціне прыводзіла да русіфікацыі, змяншэння нацыянальнага зместу іх жыцця, а часам і заняпаду. Так, супрацьстаянне ўкраінскіх нацыянал-камуністаў і беларускіх камуністаў-касмапалітаў, ганенні з боку ўлады ў сувязі з палітызацыяй Саюза ўкраінскіх і беларускіх работніцкіх арганізацый (прасавецкі ўплыў) прывялі да развалу гэтага згуртавання. Супрацьдзеянне самавызначэнню беларусаў, стварэнню іх замежных арганізацый аказвала праваслаўная царква, рускія і польскія іміграцкія арганізацыі (як левыя — прасавецкія, так і правыя — антыбальшавіцкія, манархісцкія). Польскія замежныя згуртаванні імкнуліся падпарадкаваць беларускіх імігрантаў з міжваеннай Польшчы як яе грамадзян, асабліва пасля Сусветнага з'езда палякаў (Варшава, 1934), які запатрабаваў "арганізаваць усе нацыянальныя меншасці за мяжой".

Значная частка імігрантаў міжваеннага часу, як і папярэдняй хвалі, трапіла пад уздзеянне рускіх і польскіх асяродкаў, далучылася да ўкраінскіх. Так, чыкагская газета "Белорусская трибуна" (1928, № 2) адзначала, што 99 працэнтаў усіх "расейскіх" арганізацый у Чыкага дый у шматлікіх іншых гарадах Злучаных Штатаў належаць беларусам — нацыянальна-свядомым або не — гэта ўжо іншае пытанне, але беларусам (Расейскае незалежнае таварыства ўзаемадапамогі і інш.). Менавіта выхадцы з Заходняй Беларусі складалі большасць створаных у 30-я гады рускіх клубаў у Канадзе. З канца 20-х і да сярэдзіны 30-х дзейнічаў Саюз украінскіх і беларускіх работніцкіх арганізацый у Аргенціне (у 1934 годзе меў каля 3 тысяч членаў), у 30-х — Беларуска-ўкраінскі Саюз у Бразіліі. Таму культурнае жыццё гэтых і іншых аб'яднанняў несла пэўную беларускую нацыянальную адметнасць. Паміж рознымі палітычнымі плынямі беларускай эміграцыі існавалі разыходжанні па шляхах барацьбы за незалежную дэмакратычную Беларусь, арыентацыі ў гэтым на тую ці іншую дзяржаву (Літву, Польшчу, краіны Антанты), адносінах да Савецкай Беларусі. Палітыка Савецкай улады, кіраўніцтва БССР у дачыненні да заходняй дыяспары вызначалася найперш ідэалагічнымі, палітычнымі матывамі — зарыентаванасцю на сусветную рэвалюцыю ў першыя гады, а затым — на пашырэнне камуністычных ідэй, лаяльнасці да "сацыялістычнага", савецкага ладу. Такія адносіны сфарміраваліся ў першыя паслярэвалюцыйныя гады і найбольш дакладна сфармуляваны ў тэзісах ЦК КП(б)Б "Белорусское движение за кордоном" ад 16 кастрычніка 1925 года. Гэтая пастанова раскрывае сутнасць савецкай партыйна-дзяржаўнай палітыкі, якая праводзілася ў адносінах да эміграцыі амаль што да канца 80-х гадоў. У ёй прызнавалася неабходным з улікам прысутнасці значнай працоўнай эміграцыі ў Паўночнай Амерыцы ўстанаўленне з ёю кантакту і "ажыццяўленне свайго кіраўніцтва праз мясцовую кампартыю і спецыяльна пасланых работнікаў". Адносна палітычнай эміграцыі вызначаліся меры па пашырэнню ў яе асяроддзі савецкага ўплыву, прыцягненню да супрацоўніцтва асобных груп і лідэраў. Была пастаўлена задача "працягваць работу па разлажэнню і драбленню беларускай эміграцыі", ні ў якім разе не дапусціць стварэння якіх бы там ні было беларускіх аб'яднанняў, бо гэта затармозіць развіццё беларускага руху савецкай арыентацыі. Гэтыя высілкі далі пэўныя вынікі, але найбольш істотна на пазіцыі тагачаснай палітычнай эміграцыі паўплывалі працэсы беларусізацыі, паспяховыя крокі па адраджэнню нацыянальнай культуры, ажыццяўленню палітыкі НЭПа, пашырэнне ў 1924 годзе тэрыторыі БССР. Таксама як і прынятае ў ліпені 1923 года рашэнне Прэзідыумаў ЦВК СССР і БССР аб амністыі, якая ахоплівала не толькі сялян і "паходзячых з працоўнага асяроддзя" ўдзельнікаў антысавецкіх фарміраванняў 1918—1920 гадоў, але і беларускіх палітычных і культурных дзеячаў, членаў урада БНР і розных палітычных партый. Пры ўмове лаяльных адносін да савецкай улады гарантаваліся палітычныя правы і свабоды тым, хто жадаў вярнуцца ў БССР. З улікам усіх гэтых абставін некаторыя лідэры палічылі савецкую ўладу здольнай здзейсніць нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне і аб'яднанне Беларусі, пайшлі на кантакты з кіраўніцтвам БССР і КП(б)Б, якое згаджалася на супрацоўніцтва толькі пры ўмове ліквідацыі ўрада на эміграцыі. Частка ўрада БНР на чале з А. Цвікевічам пачала перамовы з адпаведнымі органамі Савецкай Беларусі аб роспуску гэтага ўрада. ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 14 жніўня 1925 года прызнаў магчымым правядзенне з гэтай мэтай канферэнцыі ў Берліне пры выкананні шэрагу ўмоў: папярэдняй, яшчэ да канферэнцыі, перадачы паўнамоцтваў БНР ураду БССР у форме дэкларацыі; прызнанні Мінска адзіным культурным і палітычным цэнтрам, на які павінен арыентавацца беларускі рух за мяжой; адмове ад арыентацыі на Лігу нацый. На Берлінскай канферэнцыі (25 кастрычніка 1925 года) частка ўрада БНР прызнала Мінск цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі, аб'явіла аб роспуску ўрада на эміграцыі. Але члены Прэзідыума Рады БНР — яе вышэйшага органа — не прызналі правамоцнасці рашэнняў гэтай канферэнцыі, бо напярэдадні яе члены Рады міністраў (і сам І. Цвікевіч) склалі свае паўнамоцтвы і дзейнічалі практычна як прыватныя асобы. Старшыня Прэзідыума Рады БНР П. Крэчэўскі і яго намеснік В. Захарка палічылі рашэнні Берлінскай канферэнцыі "здрадай незалежнасці Беларусі" і засталіся за мяжой. Але раскол стаў адной з многіх прычын затухання палітычнай дзейнасці беларускай эміграцыі, якой у далейшым так і не ўдалося пераадолець рознагалоссі, супярэчнасці паміж рознымі групамі, плынямі.

У другой палове дваццатых гадоў тыя з лідэраў эміграцыі, што вярнуліся ў БССР, добра паспрыялі паглыбленню культурна-нацыянальнага адраджэння. Але ўмацаванне таталітарнай сістэмы, круты паварот у нацыянальнай палітыцы, які выявіўся ўжо напрыканцы 20-х гадоў, пачатак барацьбы ў БССР з так званымі "нацдэмамі" (а па сутнасці, з нацыянальна-свядомай інтэлігенцыяй) абумовілі змену адносін да рээмігрантаў, шмат якіх было беспадстаўна рэпрэсіравана. У 1930 годзе высланы за межы БССР В. Ластоўскі, І. Цвікевіч, І. Краскоўскі, П. Мядзёлка, А. Галавінскі, Л. Заяц па прыдуманай АДПУ БССР справе "Саюз вызвалення Беларусі", а ў 1937—1938 гадах яны зноў былі рэпрэсіраваны: загінулі ў папраўча-працоўных калоніях ці былі расстраляны (як П. Бадунова быццам бы за ўдзел у Аб'яднаным антысавецкім падполлі, якое прыдумалі спецслужбы БССР для арганізацыі палітычных працэсаў супраць іншадумцаў).

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

## З ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЫ




**Брагін — адзін з першых і найбольш пацярпелых ад чарнобыльскай аварыі беларускіх гарадоў. Ён і сярод самых старажытных паселішчаў рэспублікі — нядаўна адзначыў сваё 850-годдзе. Але не зламалі жыццёвай стойкасці яго жыхароў ні гора, ні гады.**

**НА ЗДЫМКАХ: добраўпарадкаваць дзіцячы парк дапамагалі гараджане Рэчыцы; мемарыяльны комплекс вёсак, якія загінулі ў выніку чарнобыльскай аварыі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



## ДЗЕ ПАДЗЕЎСЯ СКАРБ НАПАЛЕОНА?

# ТАЙНА БЯРЭЗІНЫ

Рэшткі напалеонаўскай арміі — 80—90 тысяч чалавек — падышлі па старой Смаленскай дарозе да Барысава 8 (20) лістапада 1812 года. З поўдня і ўсходу іх праследавалі асноўныя сілы рускай арміі М. Кутузава. З поўначы на ар'ергард французаў маршала Віктора насядаў корпус князя Вітгенштэйна. На захадзе заслонамі за Бярэзінай стаялі рускія войскі адмірала Чычагова.

Павел Чычагоў не надта ўдала кіраваў да вялікай вайны з французамі марскім міністэрствам. Стаўшы камандуючым малдаўскай арміяй, ён змог заключыць Бухарэсцкі мірны дагавор у 1812 годзе, але з выхадам у тыл Напалеону яўна спазніўся. Да таго ж імператар Францыі перахітрыў яго сваімі незразумелымі манеўрамі ля ракі Бярэзіны. Чычагоў так і не змог правільна вызначыцца, у якім месцы французы пабудуюць пераправу праз раку. Яму давялося разгрупаваць свае невялікія сілы.

Па іроніі лёсу, які вельмі жорстка абышоўся з П. Чычаговым (яму давялося ў 1813 годзе назаўсёды пакінуць Расію), ля месца фактычнай пераправы французаў адмірал пакінуў самы слабы атрад для заслона. Амаль без перашкод сапёры напалеонаўскага генерала Эбле да 14 (26) лістапада пабудавалі праз Бярэзіну два масты: адзін — для пяхоты і кавалерыі, другі — для артылерыі і абозу. Перадавы корпус маршала Удзіно хутка пераправіўся на правы бераг ракі і лёгка адцясніў рускі атрад прыкрыцця. Пераправа французскіх войск пачалася арганізавана. На другі дзень Бярэзіну фарсіраваў сам Напалеон са сваёй гвардыяй.

Калі першы мост працаваў спраўна, то з другім у французаў не ладзілася. Ён часта ламаўся пад цяжарам гармат. На ім ствараліся пробкі з абозу.

Яшчэ ў канцы кастрычніка маршал Берцье пісаў з стаўкі імператара італьянскаму віцэ-каралю Яўгенію Багарнэ: "Адзінае, што можа быць нам у цяжар, — гэта абозы". Нездарма Напалеон пры спыненні ў вёсцы Семлева (Смаленскай губерні) распарадзіўся скараціць нават свой асабісты абоз, а таксама паноў маршалаў да неабходнага мінімуму.

І ўсё-такі тут, ля Бярэзіны, скапілася такое мноства фур, вазоў і экіпажаў, што яны занялі ўсю дарогу да другога моста на 12 вёрст. Галава абозу знаходзілася каля вёскі Студзянкі, дзе сапёры пабудавалі пераправу, а хвост завяз у Барысаве. Раніцай 16 (28) лістапада перадавыя часці рускай арміі падышлі да пантонных мастоў французаў на дыстанцыю гарматнага выстралу. Пачаўся метадычны абстрэл пераправы, які выклікаў паніку і мітусню ў радах адступаючых ворагаў. Палкі Вялікай арміі змяшаліся, а ў абозе пачалася неразбярыха.

Бачачы, што руская конніца з мінуты на мінуту можа ўварвацца на масты, генерал Эбле загадаў падпаліць пераправу. Дзесяткі тысяч раненых і хворых французаў, а таксама мноства павозак засталіся на левым беразе Бярэзіны.

Праз дзесяць гадоў тры былыя салдаты напалеонаўскай Вялікай арміі, што хадзіла на Маскву, падданыя вялікага герцага Бадэнскага Людвіга І, звярнуліся з прашэннем да міністра ўнутраных спраў герцагства барона Беркгейма, каб той дабіўся дазволу ад урада Расіі на іх паездку туды, дзе нібыта закапаны ў зямлю чатыры бочкі золата.

Беркгейм аднёсся да гэтай просьбы недаверліва і не стаў займацца справай старых салдат, палічыўшы іх за вялікіх выдумшчыкаў. Дарэмна ветэраны вайны спрабавалі даказаць сваю праваты, паказвалі барону план мясцовасці каля пераправы праз Бярэзіну з нанесеным на плане гаем каля адной сядзібы ля горада Барысава.

Дарэмнае хаджэнне па кабінетах Міністэрства ўнутраных спраў адняло ў былых салдат два гады. За гэты час двое з іх памерлі ад старых ран і ад засмучэння, што ніхто не жадае паверыць ім. Самы малады з іх, 45-гадовы Якаб Кеніг з Ульма, таксама захварэў — ад страху, што і яго ў бліжэйшай будучыні чакае такая ж сумная доля. Сваімі трывогамі ён падзяліўся з маладым урачом Леапольдам Баўгеферам.

Той зацікаўлена выслухаў ветэрана вайны і вырашыў падзяліцца тайнай скарбу са сваім сябрам, маладым, здольным юрыстам Йозефам Рыхтэрам. Так у 1883 годзе ў Бадэне ўтварыўся трыумвірат, зразумела, сакрэтны, з мэтай дабіцца дазволу на паездку ў Расію і адшукаць закапаныя ў запаветным гаі бочкі з золатам.

На гэты раз два міністры герцагства, Беркгейм і Берштат, прыхільна паставіліся да просьбы ўплывовых маладых людзей і

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

## З ЖЫЦЦЯ ДЫЯСПАРЫ Ў ЛАТВІІ

# СУСТРЭЧА РОДНАСНЫХ СУСВЕТАЎ

11—12 кастрычніка ў музеі Райніса ў Беркенэлях прайшоў семінар "Развіццё дэмакратычнага працэсу і яго значэнне ў развіцці грамадства", на якім сярод іншых разглядаліся пытанні народнай адукацыі, утварэння народных школ. Семінар быў арганізаваны Латвійскім фондам Райніса і Аспазіі, Латвійскім фондам Эбэрта і Шведскім фондам ABC аддзялення горада Нарчэпенга. У гэтым семінары прымалі ўдзел прадстаўнікі свабодных прафсаюзаў Беларусі, беларускіх фондаў Сапегі і Янкі Купалы. Паколькі ў Даўгаўпілсе працуюць аддзяленні вышэйназваных латвійскага і беларускага фондаў, іх прадстаўнікі ўдзельнічалі ў семінары.

А ў суботу вечарам удзельнікі семінара сабраліся ў раённым Доме культуры "Варпа" на літаратурны вечар, дзе гучалі вершы на трох мовах. Латышскі паэт Юрыс Кронбергс, які жыве ў Швецыі, чытаў свае вершы на латышскай і шведскай мовах, латышскі паэт з Рыгі Андрыс Берзіньш знаёміў прысутных са сваімі паэтычнымі творамі, а беларускі паэт, старшыня таварыства дружбы "Беларусь — Латвія" Сяргей Панізьнік чытаў іх вершы, перакладзеныя на беларускую мову Андрэем Гуцавым. Андрыс Берзіньш чытаў таксама вершы Алеся Разанава, перакладзеныя ім на латышскую мову. Пасля гэтага адбылася прэзентацыя кнігі Сяргея Панізьніка — "Сустрэча родных сусветаў", у якой сабраны вершы паэтаў з многіх краін, перакладзеныя ім на беларускую мову. Значнае месца ў кнізе займаюць пераклады латышскіх паэтаў, сярод якіх даўгаўпілчане Ганна Ранцанэ і Лінда Кілэвіца. Панізьнік прачытаў надрукаваныя ў гэтым зборніку вершы Ранцанэ на беларускай мове, а Ранцанэ — у арыгінале. Затым са сваімі вершамі выступілі беларускія паэты з Мінска Антаніна Хатэнка і Міхась Скобла.

Вядучая вечара інспектар па культуры Даўгаўпілскага раёна, старшыня таварыства дружбы "Латвія — Беларусь" Інара Муканэ адзначыла, што гэта сустрэча — яшчэ адзін прыклад дружбы суседніх народаў не толькі на словах, але і ў дзеянні. Дэпутат даўгаўпілскай гарадской думы Ірэна Фолкманэ і гаспадыня "Варпы" Іаланта Урбанэ падзякавалі паэтам, уручыўшы ім кветкі.

Паэтычная вечарына закончылася, але тыя, хто прысутнічаў, не спяшаліся разыходзіцца: іх чакалі прыемныя размовы ля запаленых каміна і свечак за кубачкам кавы.

# ГОСЦІ З ВІЦЕБСКА

17—19 кастрычніка Латвію наведалі дзеці і настаўнікі Латышскай нядзельнай школы з Віцебска, а таксама супрацоўнікі аддзела культуры гэтага горада Наталля Шэйнок і Ігар Баярынцаў. Спачатку па запрашэнні старшыні Даўгаўпілскай раённай управы Ірэны Булаш яны былі прыняты ў Зэмгальскім каледжы. На другі дзень гасцям прадаставілі магчымасць зрабіць экскурсію ў Рыгу. Насычаным на добрыя ўражанні быў і дзень ад'езду. Зрабіўшы экскурсію па Даўгаўпілсу, госці з Віцебска сустрэліся з дзецьмі Беларускай нядзельнай школы і прадстаўнікамі беларускага таварыства "Уздым". Тут настаўніца Латышскай нядзельнай школы Вікторыя Шпак і настаўніца Беларускай нядзельнай школы Таццяна Бучэль абмяняліся прывітальнымі словамі і памятнымі сувенірамі. Цікавымі былі і знаёмства з Домам-музеем Райніса ў Беркенэлях, і сустрэча тут з даўгаўпілскімі паэтамі Ленай Фігурынай, Жаннай Эвартэ і Станіславам Валодзькам. У гэтым асветленым духам вялікага паэта доме гасцей шчыра прымала дырэктар Цэнтра народнай адукацыі, старшыня таварыства дружбы "Латвія — Беларусь" Інара Муканэ. Генеральны консулят Рэспублікі Беларусь у г. Даўгаўпілсе таксама не абышоў увагай віцябчан. Як і ў мінулым годзе, дзеці Латышскай нядзельнай школы начавалі ў сем'ях сваіх сяброў-аднагодкаў з Беларускай нядзельнай школы.

Ёсць спадзяванне, што ў недалёкай будучыні падобныя сустрэчы абодвух бакоў будуць мець працяг.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

## «ДАРОГА СМЕРЦІ»



**Мінскі мастак-манументаліст Уладзімір КРЫВАБЛОЦКІ (на здымку) — часты госць у Азарычах Калінкавіцкага раёна. Ён аўтар будучай карціны "Дарога смерці", у якой вырашыў увекавечыць памяць дзевяці тысяч вязняў былога канцлагера, якія загінулі тут.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## *ДА 75-годдзя СТВАРЭННЯ ЯКУБАМ КОЛАСАМ ПАЭМЫ «НОВАЯ ЗЯМЛЯ»*

# «...КАБ ЖЫЦЬ НАНОВА»

У трох пакаленняў беларусаў замірала сэрца ад чароўных радкоў: "Мой родны кут! Як ты мне мілы!" І рэдка хто не атаясамліваў сваё вясковае жыццё, самога сябе з Коласавымі героямі, а родную хату — з Міхалавай леснічоўкай.

З'яўленне "Новай зямлі" было сустрэта з вялікай радасцю, яе першыя раздзелы віталі нашаніўскія адраджэнцы. Першыя беларускія настаўнікі праз выразную, узнёслую мову Коласавай паэмы даказвалі адметнасць, хараство нашай мовы. Зацікавіліся "Новай зямлёй" іншыя колы. Паэма прызнавалася сведкай сацыяльнай барацьбы ў дарэвалюцыйнай беларускай вёсцы. Назвалі яе і "кулацкай паэмай". Аўтар нават вымушаны быў перапісваць некаторыя радкі, а ў прадмове да чарговых выданняў апраўдвацца, ставіць адпаведныя часу акцэнты: абмежаваны беларускі селянін марыць пра свой уласны кавалак зямлі, "каб з панскіх выпутацца пут".

Але ўсім было відавочна, што паэма "Новая зямля" не месціцца ў пракруставым ложы вульгарнасацыялагічнага літаратуразнаўства. Усведамляючы яе эпічны размах, даследнікі вырашаюць называць паэму "Новая зямля" "энцыклапедыяй сялянскага жыцця". У 60-я гады паэма зноў уваскрэсла для масавага чытача, але пазалетась геніяльны Коласаў твор быў выкінуты з школьнай праграмы.

То, магчыма, міністэрскія знаўцы ўрэшце лепш спазналі "Новую зямлю", калі вырашылі, што яна не патрэбная дзеткам беларусаў. Магчыма, сапраўды нічога не дасць нам сёння "сялянскі" твор Якуба Коласа: нашы суграмадзяне аж са скуры вылузваюцца, каб пазбыцца сваіх беларускіх, сялянскіх — мовы, звычаяў, менталітэту, культуры — сваёй душы. Магчыма, сённяшнім маім суайчыннікам нецікавы, непатрэбны Коласаў твор пра "сялянскае жыццё", добра вядомае кожнаму беларусу з дзяцінства або з гасціны ў родных ці сваякоў?

Але ж "Новая зямля" чамусьці патрэбная іншым. Даўно ўжо запазнаныя з беларускім шэдэўрам расійскія чытачы. Працуюць над перакладамі польскі журналіст і літаратуразнаўца Чэслаў Сэнюх, англійская публіцыстка, паэтэса Вера Рыч. Неяк у гутарцы са мною яна сказала, што калі б спатрэбілася, пакідаючы Зямлю, узяць з сабою некалькі кніг, то ў гэтай бібліятэцы была б і Коласава "Новая зямля". Яе Вера Рыч ставіць упоруч з творамі Вергілія і Шэкспіра. І наогул паэма духоўна блізкая англічанам, якія вельмі прывязаныя да зямлі. (Менавіта таму рыхтуецца пераклад).

Ці чужыя такія пачуцці беларусам? Шмат хто з нас памятае яшчэ любоў нашых дзядоў, бацькоў да зямлі. І не толькі памятае. Як кінуліся людзі, гарадскія, адлучаныя ад зямлі, да сваіх лецішчаў, да гэтых некалькіх сотак! Ужо не ўяўляюць сабе іншага спосабу жыцця, іншага баўлення вольнага часу. Праца на сваім кавалку зямлі задавальняе і духоўныя патрэбы. То, відаць, тая любоў перадалася нам з генамі. Як сцвярджаў вялікі знаўца матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага Палесся Чэслаў Пяткевіч, "апроч зямлі для палешука не існуе больш нічога, з чым бы ён мог больш, як з ёю, з'яднацца".

Сусветная літаратура ведае шмат твораў, у якіх апаэтызаваная сялянская праца, праца земляроба. Прыкладна 700 гадоў да Хрыстовага нараджэння жыў у Беоціі (край на поўнач ад Афінаў) селянін Гесіёд — другі вялікі пасля Гамера грэчаскі паэт. Шчыраваннем на бацькоўскім палетку ён стараўся пераканаць брата, што адданай і сумленнай працай на зямлі чалавек здолее здабыць для сябе і сям'і сродкі на жыццё, а таму не будзе цяжарам для грамадства, не будзе жабраком, а здабудзе павагу ад людзей і ласку багоў. Гэтую ж ідэю ён уклаў і ў свой дыдактычны эпас "Праца і дні".

Да Гесіёдавага твора, як літаратурнага ўзору, сягнуў знакаміты рымскі паэт Вергілій (70—19 гады да Хрыстовага нараджэння), ствараючы "Георгікі", самую, паводле меркавання знаўцаў, дасканалую сваю паэму. Ён меў на мэце абудзіць любоў да зямлі ды ўсвядоміць вартасці прафесіі земляроба. Вергіліева паэма апавядае пра жыццё і працу селяніна, які ў змаганні з варожымі моцамі прыроды развівае ўласныя сілы. Вергілій, як і Гесіёд, прагнуў пераканаць сваіх суграмадзян, што кожны чалавек мусіць працаваць і развіваць свае здольнасці, мусіць спасцігаць правілы Божага ладу ў свеце ды ўвасабляць іх у сваім жыцці. Вельмі важнай уяўляецца Вергіліева думка, што толькі вясковае жыццё мае панадчасавы характар і захоўвае здаровыя вартасці залатога веку.

Якуб Колас, мабыць, таксама ўзорваўся на антычнай класіцы. Ужо першым раздзелам паэма "Новая зямля" нагадвае — паводле кампазіцыйнай пабудовы — даўнія грэчаскія драмы і трагедыі. "Леснікова пасада" — гэта ўступ да эпічнага твора, — які пачынаецца ўзнёслым, велічным пралогам: "Мой родны кут, як ты мне мілы!" З такім жа пачуццём любові, замілавання вітаў Бацькаўшчыну і Талеф, герой аднайменнай Еўрыпідавай (каля 485 — 406 гадоў да Х. н.) трагедыі: "Зямля маіх бацькоў, мяжа Пялопава, паклон табе!" Праз два тысячагоддзі невядомы нам аўтар знакамітага "Слова пра паход Ігараў" з сумам усклікне: "О Руская земле! Уже за шеломянем еси!" І назаўсёды адлучаны ад Навагрудчыны Адам Міцкевіч летуценіў: "О Літва! Мая Айчына! Ты як здароўе..."

Духоўная лучнасць з родным краем — з'ява агульналюдская, панадчасавая. Вялікі наш Скарына, які палымяна любіў свой Полацк, у прадмове да адной з кніг Бібліі выказаў спрадвечнае, уласцівае і біблійным героям, і ягоным сучаснікам пачуццё: "...и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають".

У творах антычных класікаў дзеянне часта перарываецца хорам. І ў пралогу раздзела "Леснікова пасада" расповед перарываецца гэтак названым аўтарскім адступленнем пра дарогу жыцця і вясну, што, шчыра кажучы, не адпавядае Коласавай задуме, а дакладней, звышзадачы "Новай зямлі" як эпічнага твора. (Падобныя адступленні ёсць і ў іншых раздзелах паэмы). Але і ў грэчаскіх класікаў чытаем падобнае. Прыкладам — Агатон (каля 448 — каля 405 гадоў да Х. н.), аўтар трагедый, якія вызначаюцца выштукаваным стылем (паўтараць хвалу Коласаваму майстэрству не будзем). Ён уводзіў у свае творы песні хораў, якія не лучыліся з агульным дзеяннем, а былі, так бы мовіць, адвольнымі ўстаўкамі.

Пашаны і прызнання Колас заслугоўвае, вядома ж, не ўзорваннем на антычнай класіцы, перайманнем яе формаў, тэматыкі. Шэдэўрам сусветнае літаратуры паэму "Новая зямля" можна назваць праз параўнанне яе з адпаведнымі папярэднікамі.

Сялянская праца ў Гесіёда — дзеля павагі і ласкі Багоў. У Вергілія — дзеля развіцця чалавекам здольнасцяў і спасціжэння правілаў Божага ладу ў свеце. Якуб Колас творча і адметна развіў уяўленне пра асноўнае прызначэнне чалавечай працы, якое хрысціянская філасофія вызначае як інтэгральную частку місіі чалавека. Бог-творца стварыў чалавека паводле свайго вобраза і падабенства — творцам. І даў яму зямлю, каб чалавек мог здзейсніць свае патэнцыяльныя магчымасці тварыць — працягваць Божую справу тварэння.

Як пісаў расійскі мысляр XIX стагоддзя М. Фёдараў, "благая весть о Царствии небесном" знаходзіцца ў залежнасці ад уласнай актыўнасці чалавецтва, якое прызначанае дзеля ўдзелу ў Божай справе адраджэння свету... Сацыяльную творчасць і задачу чалавека ў гісторыі М. Фёдараў разумеў як паслядоўны шлях да "преображенного порядка бытия". А справай чалавека мусіць быць свядомае рэгуляванне прыроды. Як падае Біблія, "мы паводле прароцтва Божага чакаем новага неба і новай зямлі, на якіх жыве праўда..."

Якой жа бачыць Колас (і ягоны прарок Міхал) "новую зямлю"? Міхал, галоўная асоба паэмы, — фактычна духоўны продак паэта і дзіця ягонага мыслярскага тварэння, як і належыць выканаўцу Божай місіі, ва ўсіх сваіх чынах кіраваўся вялікай любоўю. Вось ён любуецца жытнёвым ланом, гладзіць колас, "нібы сынка свайго малога", і за багаты плён збажыны "ў сэрцы дзякаваў ён Богу". Таксама і ў іншай жыццёвай сітуацыі Міхал звяртаецца да Усявышняга. Вось ён убачыў гібель ваўка, які трапіў у нёманскі стрыжань:

**Міхал стаіць і разважае,**
**А потым голаву ўскідае,**
**Як бы ён хоча запытаць,**
**Хоць тут нікога не відаць:**
**"Ну, што ты скажаш, брат,**
**на гэта!"**

Раздзел паэмы "Воўк", наогул вельмі сімвалічны, хавае ў сабе Коласава разуменне свайго героя не як беларускага селяніна, а як чалавека свету, Божага сына. І Міхалу ўласцівыя тыя ж мары, пачуцці, што маюць іншыя людзі, незалежна ад таго, дзе і калі б яны ні жылі. Вось ён — у марах — бачыць сваю хату: "На ёй дзве дымніцы-блізніцы..." Вось ён глядзіць на родную вёску: "Там, угары, дальш з-па-над Нёмна Сяло глядзела зсіня-цёмна; Над ім стаяў дым белаваты". Комін і дым выступаюць сімваламі роднага гнязда для ўсіх людзей. Так калісьці і Адысей, герой Гамеравага эпасу, сумуючы ды імкнучыся да сваёй Ітакі, бачыў — у марах — дым з агменяў роднага паселішча. Тысячагоддзі пазней А. Грыбаедаў, паэт зусім адметнага духоўнага складу, уклаў у вусны свайго героя тое ж агульналюдскае: "А дым Отечества нам сладок и приятен".

Так, Міхалу ўласцівыя агульналюдскія пачуцці ды клопаты. Але Якуб Колас надзяляе свайго героя яшчэ і "думкай", якую той носіць "пад самым сэрцам": "І гэта думка зямлі просіць!" Так, яна патрэбная Коласаваму герою, "каб з панскіх выпутацца пут", каб мець "наймацнейшую аснову і жыцця першую ўмову", — зямлю, — якая "не зменіць і не здрадзіць". Геніяльнасць нашага народнага паэта праявілася і ў дыялектычным развіцці вобраза галоўнага героя. Праз духоўнае сутыкненне з плёнам сваёй працы ды смерцю, цягам свайго жыццёвага шляху Міхал прыходзіў да разумення асноўнага, згоднага з Божым, прызначэння чалавечага жыцця:

**"Зямля... зямля... туды, туды,**
**брат,**
**Будуй яе, ты дай ёй выгляд..."**

Міхал памірае, пераможаны хваробай, але не пераможаны ў сваім Боскім прызначэнні. Ён не адмаўляецца ад свайго высокага прызначэння, даручае брату прадоўжыць пачэсную справу тварэння — будавання зямлі. Дзеля чаго і пасланыя людзі.

Як бачым, выштукаваная форма, вышуканая "звышзадача" Коласавай паэмы, яе лучнасць з Божым макракосмасам і мікракосмасам чалавечай душы даюць падставу назваць "Новую зямлю" эпічным творам, з'явай сусветнай літаратуры, а таксама задумацца — не над лёсам беларусаў — над місіяй нашай нацыі, якой Бог даў ці не самую лепшую, як падае легенда, зямлю.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

## *ВЫСТАВЫ*





**У Арт-цэнтры Марка Шагала ў Віцебску адкрылася выстава графічных работ вялікага майстра. Усе творы, прадстаўленыя ў трох залах, былі падараваны Віцебску за апошнія гады.**

**НА ЗДЫМКАХ: на выставе М. Шагала; літаграфія М. Шагала "Сямісвечнік", падараваная гораду ў дні святкавання 110-годдзя з дня нараджэння М. Шагала.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## ГІСТОРЫЯ ПАСЕЛІШЧАЎ

# НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ ЁСЦЬ ОРЛЯ

Новая манаграфія вядомага гісторыка праваслаўя ў Польшчы айца Рыгора Сосны і маладога даследчыка Дарафея Фіоніка прысвечана невялікаму гарадку Орлі, што ляжыць на старадаўнім тракце з Бельска ў Каянец. Кніга выдадзена Беларускім гістарычным таварыствам (Польшча), дзейнасць якога стала вельмі прыкметнай апошнім часам. Немалая заслуга ў гэтым яго манаграфічных і перыядычных выданняў, сярод якіх самай высокай ацэнкі заслугоўвае часопіс "Bialoruskie Zeszyty Historyczne" (выйшла ўжо 7 нумароў).

Пасля апублікаванай у 1995 годзе ў Беластоку манаграфіі даследчыкаў па царкоўнай гісторыі горада Бельска (яна прысвечана памяці аднаго з самых выдатных дзеячаў беларускага нацыянальна-культурнага руху на Падляшшы — Яраслава Кастыцэвіча), выбар размешчанага за 10 кіламетраў Орлі наўрад ці аказаўся выпадковым: зусім побач знаходзіцца вёсачка Шэрні, дзе нарадзіўся а. Рыгор Сосна. Галоўным жа было слаўнае мінулае і сучаснае гарадка Орлі, які да сёння амаль не страціў рысы старадаўняга мястэчка.

Без сумнення, перад намі і адна з лепшых кніг па гісторыі рэлігійнага жыцця беларускіх прыходаў, уключаючы звычайныя, штодзённыя, бытавыя яго бакі. Трэба адзначыць вялікую сыноўскую любоў даследчыкаў да роднага краю, сваёй малой радзімы, яе людзей, у большасці сялян і мяшчан, патомныя роды якіх жывуць тут на працягу многіх стагоддзяў. Створанае іх пакаленнямі — вось галоўная тэма кнігі. Аўтары старанна апісваюць лёс паўтысячагадовага Орлі ад яго ўзнікнення да нашых дзён у дзесяці спецыяльных раздзелах, якія ўтрымліваюць вялікі фактычны матэрыял, пераважна архіўны, а таксама весткі, здабытыя непасрэдна ў мясцовых жыхароў.

У першай частцы манаграфіі асабліва запамінаюцца раздзелы аб пачатку гісторыі Орлі, аб тым, як ён стаў горадам і развіваўся ў XVII — XVIII стагоддзях, перыядзе "бежанства" ў час першай сусветнай вайны, міжваенных і пасляваенных падзеях. Вялікую цікавасць мае другая частка кнігі, названая "Цэрквы і духавенства", у якой падрабязна апісваецца гісторыя чатырох праваслаўных цэркваў Орлі: св. Іаана Багаслова, св. Сімяона Столпніка, св. Міхаіла і св. Кірылы і Мяфодзія.

Трэцяя частка кнігі змяшчае дакументальныя дадаткі, сярод якіх "Духоўны запіс старасты Слонімскага і Камянецкага Міхайлы Богуша Багавітынавіча" 1529 года, зроблены ў Слоніме і які ў тым ліку тычыцца Орлі; вялікі "Інвентар горада Орлі і Орлінскай воласці 1727 г." і "Спіс падаткаў горада Орлі 1803 г.".

Асобымі часткамі кнігі могуць лічыцца карты, фатаграфіі (іх больш за 50) і бібліяграфія, што ўключае пералік як неапублікаваных, так і апублікаваных дакументальных крыніц, а таксама літаратуру.

Аўтары а. Рыгор Сосна і Дарафей Фіонік і Беларускае гістарычнае таварыства зрабілі добры падарунак шырокаму колу чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй беларускага народа, яго духоўным жыццём, культурай, звычаямі, узаемасувязямі з іншымі народамі, што спрадвеку насяляюць Падляшша. Хочацца верыць, што пачатая імі работа па манаграфічнаму вывучэнню найбольш характэрных беларускіх паселішчаў на Беласточчыне будзе працягнута і неўзабаве ўсе мы зможам пазнаёміцца з новымі іх кнігамі, якія расказваюць аб беларускім Падляшшы.

**Юрый ЛАБЫНЦАЎ,**
**Ларыса ШЧАВІНСКАЯ.**
Масква.

# ТАКІМ ЯГО ПАМЯТАЮЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

студэнтаў, проста захапілі лекцыі і семінарскія заняткі маладога выкладчыка. Мы не толькі слухалі лекцыі, вывучалі фальклор па падручніках і хрэстаматыях — самі запісвалі песні, прымаўкі, загадкі. За фальклорам ці праз фальклор адкрывалася гісторыя народа, яго эстэтычныя ўяўленні і псіхалагічны склад, адкрывалася аблічча роднага краю.

Зрэшты, не толькі гэта. Перад вачамі міжвольна паўставала жыццёвая і духоўная біяграфія самога настаўніка. Сялянскі сын, які "пераняў ад бацькі спрыт да сякеры, малатка, гэбліка", спрыт да працы, малым хлопцам, а потым вучнем Навагрудскай гімназіі спазнаў "дары" жыцця на "крэсах усходніх" — сацыяльны і нацыянальны ўціск.

Потым прыйшло 17 верасня 1939 года, дні ўз'яднання. У дадатак — і сямейная радасць: у складзе Чырвонай Арміі на кані на чале кавалерыйскага палка з'явіўся стрыечны брат, з якім дваццаць гадоў не бачыліся...

Вучачыся перад вайной у Навагрудскім педвучылішчы, Уладзімір Калеснік "упершыню пазнаў і палюбіў сапраўды здаровы калектыў — без сацыяльных градацый, без нацыянальнай грызні, без рэлігійных забабонаў".

У Айчынную вайну — два гады партызанскай барацьбы, якія прынеслі вялікі вопыт душы...

Пасля вайны — літфак Мінскага педінстытута, праца.

Амаль чатыры дзесяцігоддзі ён выкладаў у Брэсцкім педінстытуце, а потым і універсітэце.

Нядаўна ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Калесніка і адначасова быў урачыста адкрыты Навукова-метадычны цэнтр яго імені.

На канферэнцыі прагучала каля пяцідзесяці дакладаў і паведамленняў, праблематыка якіх тычылася многіх граняў творчай спадчыны юбіляра, яго асобы, а таксама гісторыі беларускай літаратуры, агульнага літаратуразнаўства і філалогіі, гуманітарных навук у цэлым. Канферэнцыя, на маю думку, сведчыць пра добрыя традыцыі і навуковую сталасць маладога універсітэта, пра перспектывы, якія перад ім адкрываюцца. У гэтым, зразумела, таксама немалая заслуга прафесара У. Калесніка. Вучняў яго не злічыць, а з дакладамі выступалі не толькі вучні, а і паплечнікі, сябры і зусім маладыя людзі, якія не паспелі пазнаёміцца з ім асабіста. Навукова-метадычны цэнтр імя У. Калесніка месціцца ў прасторнай універсітэцкай аўдыторыі, дбайна адрамантаванай, з новай сучаснай мэбляй, дзе раскладзены і развешаны дакументы, кнігі, фатаграфіі, рукапісы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю У. Калесніка. Цэнтрам загадвае жонка Уладзіміра Андрэевіча Зося Міхайлаўна — верны яго сябар і памочніца.

Да дня адкрыцця цэнтра і навуковай канферэнцыі мясцовая газета "Народная трыбуна" змясціла некалькі ўспамінаў пра У. Калесніка яго вучняў — Веры Ляшук, Валянціна Смаля, Уладзіміра Сенькаўца, Аляксея Майсейчыка.

Прафесар А. Майсейчык згадвае: "Пры зручным моманце Уладзімір Андрэевіч любіў падкрэсліць сваё захапленне бацькам, яго ў вёсцы называлі Андрыянам. У ім Уладзіміра Андрэевіча прываблівала працавітасць, мужчынская разважлівасць — якасці, што склаліся ва ўмовах заходнебеларускай рэчаіснасці. Пра свае ўзнагароды ён ніколі не гаварыў, але ганарыўся, што бацька ў партызанах атрымаў ордэн. З пяшчотай успамінаў маці. Неяк ехала яна з Валодзем у цягніку, а поруч — жанчына з прыгожай дзяўчынкай. Паглядзела тая на Валодзю ды кажа па-польску: "Які прыгожы, а гаворыць няладна — на хамскай мове". Пачуццё знявагі даводзілася адчуваць і ў Навагрудскай польскай гімназіі. Рамантычная натура Уладзіміра Андрэевіча не цярпела прыніжэння..." Мемуарыст падмеціў вельмі характэрную рысу настаўніка.

Мяне заўсёды здзіўлялі і цешылі веданне жыцця і мудрасць гэтага чалавека, яго натуральнасць ва ўсім, "інтэлігентнасць без позы", як ён назваў свой артыкул пра творчасць паэта С. Ліхадзіеўскага. Такім ён і паўстае ва ўспамінах тых, хто яго ведаў. Трэба адзначыць свецкі і рацыянальны характар яго светапогляду і светаўспрымання, якія ў цэлым грунтаваліся на веры ў законы прыроды і грамадства. Генетычна, мне здаецца, У. Калеснік належыць да асветніцкай плыні нашай духоўнасці. Тое, што трэба жыць не толькі сэрцам, але і розумам, было для яго аксіёмай. Але дзеля справядлівасці ён ніколі не ахвяраваў міласэрнасцю, шанаваў гарманічнасць думкі і пачуцця.

Багацце перажытага паспрыяла таму, што творчае аблічча Уладзіміра Калесніка з самага пачатку аказалася шматгранным. І якая грань больш важная, цяжка вызначыць. Ён з'яўляўся заслужаным работнікам вышэйшай школы Беларускай ССР (аўтарам вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў) і выступаў у друку з літаратурна-крытычнымі, літаратуразнаўчымі і дакументальнымі творамі. Не раз даводзілася чытаць яго артыкулы пра мастацкія выставы. Ён і сам спрабаваў займацца жывапісам. Помню пейзаж у старой яго кватэры па вуліцы Маскоўскай, напісаны ім самім, — краявід, што адкрываўся з акна бацькавай хаты.

Захапленне У. Калесніка мастацкай фатаграфіяй — на прафесійным узроўні.

Выдаў шмат кніг, якія былі заўважаны. Кожная пакінула свой след у літаратуры і літаратуразнаўстве. Першая з іх — "Паэзія змагання. Максім Танк і заходнебеларуская літаратура" — выйшла яшчэ ў 1959 годзе, сцвердзіўшы ў навуковых росшуках даследчыка заходнебеларускую тэму, якая знайшла далейшы працяг і развіццё ў такіх работах і выданнях, як "Час і песні", "Сцягі і паходні" (1962), "Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі" (1977), "Тварэнне легенды" (1987). "Усё чалавечае" (1993) і інш., у якіх аўтар імкнуўся раскрыць сацыяльныя, маральна-этычныя і эстэтычныя ідэі, здольныя надаваць сэнс чалавечаму жыццю, апладняць наша штодзённае існаванне. Асабняком стаяць яго дакументальныя рэчы "Аповесць пра Таўлая" і "Пасланец Праметэя", у якіх у многім спраўдзіўся пісьменніцкі талент У. Калесніка, веданне эпохі, мастакоўская зоркасць.

Паглядзіце на яго кнігі: яны вельмі арганічныя для аўтара, і вырастаюць яны адна за адной, як галіны на дрэве. Гэта той выпадак, калі ў творчым акце навуковага пошуку ўдзельнічае цалкам уся асоба даследчыка з яго жыццёвым і духоўным вопытам грамадзяніна і патрыёта. Пра гэта сведчаць і раздзелы, напісаныя У. Калеснікам для акадэмічных гісторый беларускай літаратуры. Нездарма яму ў ліку іншых прысвоена ганаровае званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі рэспублікі.

Каштоўная рыса яго метадалогіі як даследчыка — гістарызм, які, мне здаецца, ад кнігі да кнігі ўсё больш паглыбляўся, перадаючы чытачам тонкае і праўдзівае адчуванне поступу часу, адчуванне, уласцівае аўтару, які ставіў задачу рэстаўрацыі разбураных пластоў культуры, асваення "белых плямаў" нацыянальнай гісторыі. Амерыканскі філосаф XX стагоддзя Дж. Сантаяна пісаў, што "чалавек, які не ведае гісторыі, асуджаны на тое, каб перажыць яе зноў". Гэтая думка блізкая і У. Калесніку. Яна знайшла таксама ўвасабленне ў арыгінальнай кнізе "Я з вогненнай вёскі...", створанай сумесна з А. Адамовічам і Я. Брылем. Уклад У. Калесніка ў гэту кнігу, як вядома, разнастайны і значны.

І яшчэ адна важная грань дзейнасці: Уладзімір Андрэевіч кіраваў Брэсцкім літаратурным аб'яднаннем, якое дзякуючы яго клопатам вырасла ў абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Сёння Брэст ці не ўпершыню (калі не лічыць асобныя факты далёкага і бліжэйшага мінулага) стаў літаратурным горадам, што, безумоўна, узбагачае яго культурнае і мастацкае жыццё.

Трэба адзначыць дзеля справядлівасці, што яго творчыя прынцыпы, разуменне сутнасці літаратуры не ва ўсім супадалі з афіцыйнымі ўстаноўкамі, тага-сяго і не задавальнялі. У. Калеснік імкнуўся да праўды, кіраваўся інтарэсамі навукі і звычайнай чалавечай логікай, здаровым сэнсам, і не ў яго натуры было выдаваць чорнае за белае ці наадварот.

Вельмі станоўча паўплываў на яго час адлігі — другая палавіна 50-х гадоў, калі стала лягчэй дыхаць і можна было больш плённа працаваць, актыўней сцвярджаць уласную думку. Чалавек тэмпераментны, сваю думку ён адстойваў паслядоўна, часам рэзка, са страсцю палеміста. Чалавек вялікай і чулай душы, ён быў барацьбітом за згоду паміж людзьмі. Як ніхто іншы, умеў радавацца чужым поспехам і дасягненням, але не выносіў штучнасці ў паводзінах, позы, зазнайства. І, хочацца паўтарыць, высока ставіў згоду, гармонію, кансэнсус, як цяпер гавораць. Помню, я, трапіўшы ў Брэст з Кіева і невядома дзе сустрэўшы Новы 1963 год, зайшоў да яго, на кватэру па Маскоўскай вуліцы, толькі вечарам першага студзеня. Ён быў адзін, пажурыў мяне, што не завітаў днём раней, пад Новы год, і пасадзіў за стол. Зося Міхайлаўна адсутнічала па неадкладных справах, але паклапацілася пра ўсё. Недахопу ні ў чым не было, і мы добра пасядзелі, пагаварылі літаральна пра ўсё (пра гэты вечар я якнебудзь раскажу асобна). Сярод іншага ён расказваў пра Навагрудскую гімназію, у якой вучыўся да вайны, з павагай успомніў свайго прафесара-лацініста з гэтай гімназіі, які быў закаханы ў слова concordia, што па-лацінску азначае дружбу, згоду.

Пра Уладзіміра Андрэевіча можна ўспамінаць і ўспамінаць. Вышэй я бегла закрануў пытанне аб яго светапоглядзе і светаўспрыманні. Гэта быў, калі можна так сказаць, прыродны чалавек, вялікі аматар прыроды, які пакланяўся ёй. Пра гэта сведчаць усе, хто яго ведаў. Яму падабалася быць на ўлонні прыроды, знаходзіцца з ёю ў кантакце, і гэта, думаецца, сутнасная, філасофская рыса яго светапогляду. Любіў слухаць, як шуміць лес, расце трава, спявае вада. Я ўспамінаю радкі Мікалая Забалоцкага, якога ён высока цаніў:

**Я не умру, мой друг,**
**Дыханием цветов**
**Себя я в этом мире обнаружу.**
**Многовековый дуб**
**мою живую душу**
**корнями обовьет, печален и суров.**
**В его больших листах**
**я дам приют уму,**
**я с помощью ветвей**
**свои взлелею мысли,**
**чтоб над тобой они**
**из тьмы лесов повисли**
**и ты причастен был**
**к сознанью моему.**

Паэт сказаў вельмі добра: свет адзіны, і ўсе мы прыналежныя да памяці У. Калесніка, да яго спраў, да яго чалавечнасці, да яго духоўнай спадчыны.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ.**

# ДОБРЫ ПРЫКЛАД А. СІЛІВОНЧЫКА

Незвычайная падзея адбылася 11 кастрычніка ў вёсцы Гамза Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці. Жыхары вёскі былі сведкамі і ўдзельнікамі асобага свята, ці, як цяпер называюць, прэзентацыі новага аўтобуснага маршруту. "Імяннінік" — бліскучы, цёмна-сіняга колеру мікрааўтобус "Мерседэс-бэнц" стаяў каля хаты бабкі Насты, дзе сабралася многа святочна апранутых вяскоўцаў, іграў гармонік, чуліся песні і гамана. Аўтобус для сваіх аднавяскоўцаў набыў за ўласныя грошы і падараваў ім сын бабкі Насты Анатоль Сілівончык. Ён жыве і працуе ў Сібіры, у г. Сургуце Цюменскай вобласці. Далёка ад роднага дому Анатоль не забывае пра той цудоўны палескі куток, дзе нарадзіўся і вырас. З усёй немалой сям'і Сілівончыкаў у вёсцы засталася адна маці. Бабуля Наста — сапраўдны ўзор добрай вясковай гаспадыні, руплівай, умелай, мужнай, працавітай беларускай жанчыны. Яе дом і сёння ўтульны, гасцінны, сюды любяць прыязджаць два сыны і дачка, унукі.

Вёска невялікая, жывуць у асноўным пажылыя людзі, адрэзаныя ад свету. Пошта, медпункт, школа толькі за 6 кіламетраў, якія трэба адольваць пешкі. Да Парычаў ці ў Светлагорск і ўвогуле не дабярэшся: рэйсавыя аўтобусы даўно адмянілі. Нават да дактароў няма на чым даехаць, а гэта так часта патрэбна старым спрацаваным людзям, большасць з якіх перажылі вайну, страты, цяжкія пасляваенныя гады.

Вось і вырашыў Анатоль дапамагчы землякам, аддзячыць ім за тое, што трымаюць жыццё ў дарагіх яго сэрцу мясцінах. На аўтобусе красуецца шыльдачка "Грамадскі аўтобус жыхароў вёскі Гамза". Ужо ёсць і шафёр, якому будзе выплачвацца зарплата. Будзе распрацаваны графік і маршруты работы. Праезд — абсалютна бясплатны. Грамадскі транспарт будзе выязджаць і па тэрміновых заяўках сяльчан, калі ў гэтым будзе вострая патрэба. У нядзелю будзе арганізаваны спецыяльны рэйс у Парычы, на царкоўную службу.

У хаце, пры стале, дзе была і чарка, і скварка, людзі выказалі многа цёплых слоў удзячнасці. Большасць з іх ніяк не маглі паверыць, што гэта рэальнасць і цяпер будзе так лёгка вырашацца іх найгалоўнейшая праблема — сувязь са светам.

Колькі зараз у Беларусі такіх гаротных вёсак, жыхары якіх не маюць самых элементарных умоў для нармальнага жыцця. Маладзейшыя ад'ехалі, а старыя бацькі ў адзіноце і занядбанні дажываюць свой век. Ці ўспамінаюць зараз пра іх патрэбы сыны, што жывуць у гарадах, ездзяць на шыкоўных машынах, добра апранаюцца і сытна ядуць? Ці задумаюцца яны аб тым, каб падзяліцца з бацькамі сваім дастаткам і ўзяць прыклад з Анатоля Сілівончыка, што сваім учынкам паказвае многім шлях да маральнага ачышчэння, да сплаты даўгоў перад сваімі роднымі вёскамі, што асірацелі без маладых дужых рук і пацяху адыходзяць у нябыт разам з іх насельнікамі.

**Ганна СУРМАЧ.**

## МАЙСТРЫ МАСТАЦТВА



**Таццяна ЛІХАЧОВА (на здымку) — актрыса Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску. Дваццаць пяць гадоў мінула з таго дня, як яе залічылі ў трупу тэатра. За гэты час яна сыграла многа цудоўных роляў, сёння гледачы могуць убачыць яе ў ролі Соні з "Дзядзькі Вані" А. Чэхава, Дануты — у спектаклі "Час быка".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## ЗГАДКІ ВОСЕНІ







**Усе гэтыя багатыя і часам не зусім звычайныя дарункі падрыхтавала людзям шчодрая восень. Садавіна, агародніна, ягады, грыбы радуюць вока, цешаць душу, выклікаюць усмешку дзівосы прыроды.**

# ТАЙНА БЯРЭЗІНЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).

звярнуліся па садзейнічанне да расійскага пасланніка ў Франкфурце-на-Майне. Той без прамаруджвання накіраваў у Пецярбург запыт аб выдачы візы панам Я. Кенігу, Л. Баўгеферу і Й. Рыхтэру на ўезд у Расію для адшукання скарбу паміж Смаленскам і Вільняй. Міністэрства замежных спраў Расіі, перш чым даць дабро скарбашукальнікам з Бадэна, зрабіла адпаведны запыт у Міністэрства ўнутраных спраў і атрымала грунтоўны адказ. У даведцы гаварылася, што "маскоўская здабыча" Напалеона: золата (пераплаўленае з розных рэчаў) — 18 пудоў, серабро — 325 пудоў, вырабы з каштоўных металаў, каштоўныя камяні і самацветы, гарматы і старадаўняя зброя, даспехі і царкоўнае начынне, іконы з дарагімі апраўамі, посуд, футра, адзенне — усё гэта было вывезена са старой сталіцы і часткова засталося ў тайніках на Смаленскай дарозе.

Там жа, у даведцы Міністэрства ўнутраных спраў, гаварылася, што бадэнцы не першыя з іншаземцаў, якія выказвалі жаданне адшукаць тайны скарб. У канцылярыі яго імператарскай вялікасці Аляксандра І з 1815 года захоўваюцца два пісьмы ад прэзідэнта прускай каралеўскай юрыдычнай камісіі, былога прэм'ер-міністра Прусіі Энгельгарта. Адно пісьмо ён пераслаў праз сястру Аляксандра І, жонку наследнага герцага Веймарскага, другое — праз прускага караля Вільгельма і расійскага пасланніка ў Берліне.

У абодвух пісьмах Энгельгарт інфармаваў цара аб тым, што ў 1813 годзе ў яго кватаравалі два французскія афіцэры. Адзін з іх, па імені Альберт, расказаў, як другі ў 1812 годзе, выпадкова заглянуўшы ў царкву ў Коўне (Каўнас), убачыў некалькіх салдат, якія нешта хавалі пад падлогу. Ён высветліў, што салдатам надакучыла цягнуць цяжкую скрыню з залатымі манетамі на 800 тысяч франкаў. Яны вырашылі пазбавіцца ад яе. Энгельгарт папрасіў Альберта ўдакладніць, у якой царкве яго прыяцель бачыў апісаную сцэну. І той паведаміў, што справа адбывалася ў храме, што знаходзіцца ў Віленскім прадмесці Коўна, непадалёку ад старога замка.

Даведка канчалася прапановай не перашкаджаць жадаючым аказаць дапамогу расійскаму ўраду ў адшуканні скарбаў.

У самім Міністэрстве замежных спраў заўсёды помнілі, што Аляксандр І быў жанаты з бадэнскай прынцэсай Луізай-Аўгустай, якая атрымала ў Расіі імя Лізавета Аляксееўна. Шлюб адбыўся яшчэ пры Кацярыне II, у 1793 годзе, і бабка імператара ласкава тады пісала: "Псіхея злучылася з Амурам". Тады Аляксандру ішоў шаснаццаты год, Луізе — пятнаццаты.

Землякам імператрыцы быў забяспечаны самы ветлівы прыём. Акрамя таго, расійскія дыпламаты не забывалі, што ў 1813 годзе, пасля паражэння Напалеона пад Лейпцыгам, першым з нямецкіх правіцеляў перайшоў на бок праціўнікаў Францыі вялікі герцаг Бадэнскі Карл-Людвіг-Фрыдрых.

Тры бадэнскія скарбашукальнікі атрымалі дазвол на ўезд у Расію летам 1823 года. Але Якаб Кеніг не на жарт расхварэўся, і паездку давялося адкласці да восені. Толькі 4 лістапада 1823 года бадэнцы з'явіліся ў Санкт-Пецярбургу. Іх размясцілі ў доме № 103 на першай лініі Васільеўскага вострава. Дзяржаўная калегія Міністэрства замежных спраў адпусціла ім 2 500 рублёў на дарожныя траты і пакупку неабходнага інструменту. Немцы набылі дзейснага памочніка ў асобе ад'ютанта начальніка галоўнага штаба, гвардыі капітана Фрэдэрыкса. Пошукавая група выехала са сталіцы 26 лістапада і дабралася да Барысава ў пачатку снежня. Без затрымкі была зроблена паездка ўздоўж Бярэзіны да вёскі Студзянка. Там Якаб Кеніг, без сумнення, пазнаў месца, дзе была французская пераправа праз раку. Але куды ж дзеўся запаветны гай? Як ні круціў у руках план, намаляваны ў 1812 годзе, Кеніг не мог адшукаць неабходныя арыенціры. План рашуча не жадаў супадаць з рэальнай мясцовасцю. Тады былы салдат засумняваўся: ці туды яго прывезлі? Ці той гэта Барысаў? Ці тая рака Бярэзіна?

Фрэдэрыкс, усміхаючыся, патлумачыў:

— Так, у нас ёсць другая Бярэзіна. За Мінскам. Яна ўпадае ў Нёман, а гэта — у Днепр. Але горад Барысаў у нас адзін. І пераправа французаў была тут. У гэтым няма і не можа быць сумненняў.

Маладыя скарбашукальнікі глядзелі са здзіўленнем на Якаба Кеніга. Яны не маглі зразумець, што за адзінаццаць гадоў мясцовасць так змянілася, што іх праваднік аказаўся не ў стане знайсці месца, дзе ён асабіста ўдзельнічаў у захаванні вялікага скарбу. Паўторныя паездкі на бераг Бярэзіны не прыносілі жаданага выніку. Капітану Фрэдэрыксу надакучыла адчуваць сябе дурнем. Ён пакінуў бадэнцаў пад нагляд мясцовага паліцэйскага спраўніка, а сам паехаў у Санкт-Пецярбург. Неўзабаве і расчараваныя немцы вярнуліся ў сталіцу, дзе ім у парадку суцяшэння далі грошай на дарогу назад.

У час панікі, што ахапіла французаў ля пераправы праз Бярэзіну 16 (28) лістапада 1812 года, дзесяць расійскіх салдат выпадкова захапілі павозку, у якой аказалася восем бочачак золата. Яны схавалі знаходку ў яме на левым беразе ракі, а самі рушылі за адступаючымі французамі далей.

Праследаванне працягвалася не адзін год. Гэтыя салдаты прайшлі ўсю Еўропу, дабраліся да Парыжа. Былі і такія, якім давялося ў якасці аховы суправаджаць Напалеона да вострава Святой Алены. Вядома, што ўсе яны склалі свае буйныя галовы ў замежным паходзе, за выключэннем аднаго — салдата Яўхіма. Легенда захавала для нас толькі яго імя. У 1836 годзе ён дабраўся да Барысава ўжо старым, з моцна падарваным здароўем. Старога, хворага салдата прынялі ў доме двараніна Станіслава Рачкоўскага.

С. Рачкоўскі — паляк, былы афіцэр Вялікай арміі Напалеона, які добраахвотна перайшоў у ходзе вайны на бок рускай арміі. Яму не вельмі давяралі, і, нават знаходзячыся ў адстаўцы, ён жыў у Барысаве пад тайным паліцэйскім наглядам. Гасцінны гаспадар, які прыняў у дом ветэрана Айчыннай вайны, наведаў хворага Яўхіма, паспачуваў яму:

— Трымайся, стары салдат. Бог дасць, паправішся.

Клапатлівы пан так спадабаўся Яўхіму, што ён вырашыў расказаць яму пра тайну скарбу. Адчуваў: самому не дабрацца да берага Бярэзіны, не раскапаць запаветную яму. Станіслаў Рачкоўскі выслухаў споведзь старога салдата недаверліва, але, жадаючы суцешыць яго, паабяцаў выехаць з ім да ракі. Неўзабаве, не дачакаўшыся выздараўлення, Станіслаў Рачкоўскі, яго дзесяцігадовы сын Юльян і Яўхім паехалі на Бярэзіну да месца, дзе была французская пераправа...

Рачкоўскі прыўзняў галаву хворага Яўхіма, каб ён мог бачыць наваколле і раку, якая ў першым зімнім уборы спакойна несла свае воды, прыцярушаныя шарашом. Ад яркай белізны снегу вочы ў салдата слязіліся, погляд туманіўся, і ён ніяк не мог знайсці патрэбнае месца. Ён жа добра помніў невялічкі гай паблізу скарбу! Дзе ж тыя дрэвы, што служылі арыенцірам?

У галаве ў Яўхіма не хацела ўкладвацца простая думка, што тыя дрэвы маглі быць проста спілаваны мясцовымі сялянамі адразу пасля вайны.

Давялося вярнуцца ў горад ні з чым. Пасля паездкі хвароба салдата абвастрылася, ён не дацягнуў да наступнай раніцы, памёр. Яго пахавалі як належала. Станіслаў Рачкоўскі сам сабе даў слова над магілай салдата, што не будзе займацца пошукамі скарбу. Ён разумеў, што знаходку вялікай колькасці золата не ўдасца захаваць у тайне ад павятовага паліцэйскага спраўніка. Звярнуцца да ўладаў? Ды наўрад ці знойдуцца чыноўнікі, якіх можна пераканаць расказам старога салдата.

Юльян Рачкоўскі меў іншую думку. Але і ён доўгі час захоўваў тайну скарбу, не давяраючы яе нікому. Яму па службе на пасадзе сакратара канцылярыі мінскага губернатара не раз даводзілася трымаць у руках розныя дакументы (рапарты, дакладныя запіскі, прашэнні) наконт пошуку скарбаў на дарозе, па якой ішла адступаючая французская армія праз Мінскую губерню. Няўдачы папярэднікаў стрымлівалі яго, не дазваляючы правесці самастойны пошук.

Толькі ў 1896 годзе, выйшаўшы ў адстаўку на сёмым дзесятку, Ю. Рачкоўскі напісаў дакладную запіску на імя міністра ўнутраных спраў Расіі з просьбай даць яму дазвол на пошук скарбу ля ракі Бярэзіны — чырвонае золата з васьмі бочачак, закапаных рускімі салдатамі ў 1812 годзе.

Міністэрства накіравала дакумент губернатару Мінска, які і распарадзіўся выдаць адстаўному чыноўніку ўсё неабходнае для пошукавых работ. У тым ліку скарбашукальнік атрымаў спецыяльную землечарпальную машыну.

Летам 1897 года ціхі бераг Бярэзіны быў разбуджаны тарахценнем машыны, крыкамі нанятых Рачкоўскім людзей. Добра папрацавала землечарпалка. Яна падняла з дна ракі вялікую колькасць прадметаў з "казённай маёмасці": шаблі, каскі, рэшткі ружжаў, гарматныя ствалы, лафеты і да т. п. Трапляліся залатыя і сярэбраныя манеты, на жаль, вельмі мала. Яма ж на беразе з залатымі чырвонцамі так і не была знойдзена.

Архіўная справа канцылярыі мінскага губернатара аб пошуку скарбу Ю. Рачкоўскім на беразе Бярэзіны была закрыта 8 лістапада 1897 года...

Але тайна, народжаная сцюдзёнымі лістападаўскімі днямі 1812 года, працягвае заставацца тайнай. Можа быць, гісторыя гэтая будзе яшчэ мець і больш удалы канец.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**


Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1554.
Падпісана да друку 3.11.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.